УДК 37.016:78(075)
ББК 74.268.53
К13

Р э ц э н з е н т ы:

*Бараноўская Т.Р.*, дацэнт кафедры спецыяльнага музычнага інструмента, кандыдат філасофскіх навук;

*Пракопчык А.А.*, настаўнік вышэйшай катэгорыі, выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, кіраўнік метадычнага аб'яднання настаўнікаў музыкі Ленінскага раёна г. Гродна;

*Аўхіменя М.А.*, хармайстар Народнага хору ветэранаў вайны і працы Гродзенскага гарадскога палаца культуры.

Рэкамендавана Саветам факультэта мастацтв ГрДУ імя Я. Купалы.

**Кажанеўская, Г.Б.**

К13 Музычная культура Беларусі на ўроках музыкі ў 4 класе : дапам. / Г.Б. Кажанеўская, Н.І. Бракала. – Гродна : ГрДУ, 2010. – 59 с.
ISBN 978-985-515-294-2

Вучэбна-метадычныя распрацоўкі ўрокаў уключаюць знаёмства з беларускай песеннай і танцавальнай творчасцю, народнымі інструментамі і асаблівасцю іх гучання; дзейнасцю беларускіх кампазітараў у розных музычных жанрах. Адрасавана студэнтам спецыяльнасці «Музычнае мастацтва. Спецыяльныя музычныя дысцыпліны», таксама можа быць карысным настаўнікам музыкі агульнаадукацыйных школ, выкладчыкам методыкі музычнага выхавання.

**УДК 37.016:78(075)**
**ББК 74.268.53**



**ISBN 978-985-515-294-2**

# *Прадмова*

Дадзенае вучэбнае выданне прадстаўляе сабою метадычныя распрацоўкі ўрокаў па музыцы для 4-га класа агульнаадукацыйнай школы.

Тэма «Музычная культура Беларусі» разглядаецца на ўроках у першым паўгоддзі. Яна мае вельмі важнае значэнне ў духоўным і патрыятычным выхаванні вучняў: дазваляе далучыць да нацыянальнай культуры, гісторыі і быту беларускага народа. Гэта тэма настолькі шматгранная, што не можа быць глыбока разгледжана за 16 гадзін, адведзеных праграмай на яе вывучэнне. Таму ў распрацоўках даюцца найбольш патрэбныя і каштоўныя, на погляд аўтараў, звесткі.

Прыкладныя метадычныя распрацоўкі дзеляцца на два блокі: фальклорны і жанрава-кампазітарскі. Фальклорны матэрыял будзе знаёміць вучняў з разнастайнымі беларускімі народнымі песнямі і танцамі, іх асаблівасцямі; з выглядам і гучаннем беларускіх народных інструментаў; садзейнічаць зразуменню значэння народнай музыкі ў жыцці чалавека. На «фальклорных» уроках вучні таксама будуць вучыцца складаць песні, падбіраць падгалоскі і інструментальныя (або рытмічныя) акампанементы. Да гэтага блоку далучаюцца ўрокі, прысвечаныя старажытнай музыцы, у ходзе якіх чацвёракласнікі пазнаёмяцца з кантамі, калядкамі, з музыкай мінулага нашай краіны. Прагучаць на ўроках і сучасныя творы на духоўную тэму. Жанравакампазітарскі блок раскрые кампазітарскую творчасць на аснове розных жанраў (опер, балетаў, сімфанічных твораў), пакажа выкарыстанне беларускімі кампазітарамі народных мелодый у сваіх творах (апрацоўкі, цытаванне).

Асобных урокаў, прысвечаных сучасным выканаўцам, у распрацоўках не прадугледжана. Знаёмства з імі адбываецца ў рамках урокаў на працягу вывучэння тэмы паўгоддзя. Так, вучні неаднойчы пачуюць ансамблі: «Песняры», «Свята», арт-групу «Беларусы» і іншых.

У распрацоўках выкарыстоўваюцца розныя метады музычнага выхавання – пластычнае мадэліраванне, драматызацыя, імправізацыя, мастацкі кантэкст і іншыя, якія стымулююць дзейнасць вучняў, садзейнічаюць развіццю музычных і творчых здольнасцяў, мастацкага мыслення.

Актыўна ўжываецца розны ілюстрацыйна-наглядны матэрыял – партрэты кампазітараў, афішы сучасных выканаўцаў, творы жывапісу, нотныя табліцы песень, адкрыткі ці ілюстрацыі беларускіх народных інструментаў і інш. Гэта дапаможа вучням лепш пазнаць, успрыняць і запомніць матэрыял урокаў.

Прапаноўваюцца розныя творчыя заданні: скласці песню ў народным «духу», прыпеўку, падгалосак да песні; прыдумаць інструментальнае суправаджэнне, выяўленчыя рухі да песні; стварыць танец; імітаваць ігру на музычных інструментах; падабраць рэпрадукцыі карцін, вершы да музыкі і інш. Адныя заданні даюцца для выканання ў класе, а другія – дома.

Адметнай рысай дадзеных распрацовак з'яўляецца тое, што кожны ўрок мае не толькі сваю тэму, але і эпіграф, які служыць своеасаблівай эмацыянальнай зарадкай, дазваляе павярнуць урок у выхаваўчае рэчышча. Акрамя таго, выкарыстанне ў якасці эпіграфаў беларускіх прымавак, яркіх выказванняў пісьменнікаў і паэтаў пашырыць веды вучняў, будзе выхоўваць любоў і павагу да роднай мовы.

Матэрыял кожнага ўрока настаўнік можа даваць па-свойму, зыходзячы з магчымасцей дзяцей, іх музыкальнасці і ўзроўню развіцця музычнай культуры.

Жадаем поспехаў!

# УРОК 1
## Тэма: *Песня народная і кампазітарская*

*Песня – душа народа.*
Р.Шырма

**Мэта**: раскрыць сутнасць народнай і кампазітарскай песень, паказаць адносіны да іх чалавека.

**Задачы**: – выявіць значэнне слоў «фальклор», «фалькларыст», «фалькларыстыка»;
– развіваць пеўчыя ўменні;
– фарміраваць асацыятыўна-вобразнае мышленне;
– выхоўваць павагу і інтарэс да народнай песні;
– фарміраваць нацыянальную самасвядомасць.

**Тып урока**: уводзіны ў тэму.

**Музычны матэрыял**: – «Радзіма мая дарагая». Словы А.Бачылы, музыка У.Алоўнікава;
– «Люблю наш край». Словы К.Буйло, музыка М.Равенскага;
– Народныя песні (вядомыя вучням па папярэдніх класах);
– «Гімн Беларусі». Словы М.Клімковіча, У.Карызны, музыка Н.Сакалоўскага;
– «Мелодыя». Музыка І.Жыновіча.

**Абсталяванне ўрока:**
– таблічкі з тэмай паўгоддзя, урока; эпіграфам;
– рэпрадукцыі карцін: «Блакітнай вясной» В.К.Бялыніцкага-Бірулі; «Восень» В.К.Цвіркі; «Беларускія прасторы» А.І.Караля (гл. «Беларускі савецкі жывапіс». – Мінск: Беларусь, 1978);
– партрэты: Р.Шырмы, Г.Цітовіча, У.Алоўнікава, М.Равенскага;
– нотныя табліцы песень: «Радзіма мая дарагая», «Люблю наш край»;
– фоназапіс твораў: «Радзіма мая дарагая» (у выкананні хора і саліста); «Гімн Беларусі»; «Мелодыя».

## *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**

Школьнікі ўваходзяць у клас пад песню У.Алоўнікава і А.Бачылы «Радзіма мая дарагая» ў выкананні хора і саліста, слухаюць да канца.

– Аб чым пяецца ў песні, пад якую вы ўвайшлі? (...). Якімі пачуццямі яна напоўнена? (...). Хто выконваў песню? (...). Як яна гучыць? (Няспешна, шырока, урачыста). Настаўнік іграе пачатак песні і гаворыць: «Яшчэ раз услухайцеся ў пачатковыя інтанацыі. Яны вам знаёмы? Ці слухалі вы іх калі-небудзь? Дзе? ( Пазыўныя беларускага радыё).

– Можа, хтосьці ведае назву песні? (...). Песня, пад якую вы ўвайшлі ў клас, называецца «Радзіма мая дарагая». Яе аўтары – беларускі паэт Алесь Бачыла і беларускі кампазітар Уладзімір Алоўнікаў (паказ партрэтаў).

**Распяванне.**

Развучым урывак песні (вывешваецца нотная табліца). Паслухайце яе пачатак.






Настаўнік спявае фрагмент песні са словамі і адначасова паказвае ўказкай па нотах.

– А цяпер праспявайце разам са мною. Слова «Радзіма» спявайце шырока, пявуча, горда, не «маршыруйце» голасам! (Спяваюць). Вы бачыце, у мелодыі з'явілася кароткая паўза. Можа, яна сімвалізуе «ўдых хвалявання» перад прызнаннем Радзіме ў каханні? Далей жа ідуць словы «мая дарагая»?! Як трэба іх праспяваць? (...). Так, з любоўю. (Спяваюць). Вы адчулі, як мелодыя і рытм перадалі стан чалавечай душы? Нашы гаворкавыя інтанацыі пераняла мелодыя і таму ў спяванні голас гучыць то вышэй, то ніжэй, то гучней, то цішэй. Праспявайце яшчэ раз гэту фразу самастойна.

Вучні спяваюць, настаўнік дырыжорскім жэстам дапамагае больш выразна выканаць дадзены фрагмент. Далей развучваецца наступны сказ. Тут звяртаецца ўвага на выкананне трыёльнага рытму (крыху з адцяжкай на словах «жаданым жыві», на тое, каб гэтыя словы не «выпіхваліся» па складах, а спяваліся звязна). У апошнім сказе трэба звярнуць увагу на меладычныя інтанацыі музычнай фразы «табе прысягаю», на дакладнае выкананне распеваў у словах «прысягаю», «сыноўняй».

**Уводзіны ў тэму.**

– Мы развучылі фрагмент песні, якую стварылі два чалавекі – прафесійны паэт і кампазітар. Аб такіх песнях гавораць, што гэта кампазітарскія, аўтарскія песні, таму што вядомы іх аўтары. А як называюць песні, чые аўтарства невядома, але іх беражліва захоўваюць і перадаюць з пакалення ў пакаленне? (Народныя).

– Што вы ведаеце аб народных песнях? (...). Так, яны складаліся ў тыя далёкія часы, калі простых людзей музыцы не вучылі. Але ў кожнага народа было шмат таленавітых спевакоў, музыкантаў, умельцаў майстраваць музычныя інструменты і ствараць музыку. Песні ў той час не запісваліся, а перадаваліся ад чалавека да чалавека, ад сям'і да сям'і, ад сяла да сяла, як гавораць, «з вуснаў у вусны». Часта мелодыя і словы ствараліся адначасова. Падчас гэта мог быць адзін чалавек, а іншы раз – цэлая група. І таму, што мы не ведаем іх прозвішчаў і імён, называем такія песні – народныя. Па песні адразу можна распазнаць з чыіх вуснаў, а галоўнае – з чыйго сэрца яна выйшла. Гавораць, што «песня – душа чалавека» (настаўнік вывешвае таблічку з тэкстам на дошку). Як вы разумееце сэнс гэтага выказвання? (...). Слушна, у народных песнях – вясёлых, гарэзлівых, танцавальных або пяшчотных, чуллівых, пявучых – мы адчуваем стан душы чалавека, яго мыслі, адносіны да таго, аб чым расказвае песня. Да нашых дзён дайшлі старажытныя народныя песні таму, што з часам паявіліся

музычна-пісьменныя людзі, якія пачалі іх збіраць і запісваць. Такіх людзей называюць фалькларыстамі, ад слова фальклор. Што яно азначае? Хто ведае? (...). Фальклор у перакладзе з англійскай мовы – «народная мудрасць» (на дошцы вывешваецца таблічка – «Фальклор – народная мудрасць»). Ва ўсе часы народная творчасць (не толькі песенная!) прыцягвала да сябе ўвагу вучоных, пісьменнікаў, паэтаў і кампазітараў. З'явілася нават навука аб фальклорных творах – фалькларыстыка. Вядомыя беларускія фалькларысты Р.Шырма, Г.Цітовіч і іншыя (паказваюцца партрэты) сабралі і запісалі нямала беларускіх народных песень, якія складаюць сёння музычнае багацце нашай краіны. А як вы думаеце, рабяты, навошта мы захоўваем (як у скарбонцы) у памяці народныя песні? (...). Так, гэта наша гісторыя, жыццё. Гэта нашы музычныя карані! Калі пашкодзіць, напрыклад, карані дрэва, то яно засохне. Так і з музыкай можа стацца. Народная музыка падчас падпітвае сваімі цудоўнымі мелодыямі кампазітарскую музыку (творчасць). Народная мудрасць гаворыць: «Няма будучыні ў народа, які не помніць свайго мінулага». Таму на нашых уроках мы будзем знаёміцца з беларускім музычным фальклорам. І не толькі! Вакол гучыць многа цудоўнай кампазітарскай музыкі. (Вучні запісваюць у сшытках тэму паўгоддзя: «Музычная культура Беларусі». Таблічка з тэмай вывешваецца на дошцы.).

**Развучванне песні «Люблю наш край».**

– А сённяшні ўрок мы прысвячаем песні – народнай і кампазітарскай (вывешваецца таблічка з тэмай урока). Часам бывае цяжка вызначыць, якая песня прагучала – народная ці кампазітарская. У доказ гэтага вызначце від песні, якая зараз прагучыць (выконваецца песня «Люблю наш край»).

– Народная! … Кампазітарская!

– Чаму вы так думаеце? Аргументуйце свае адказы. (...). Прагучала песня «Люблю наш край», – гаворыць настаўнік. – Гэта кампазітарская песня. Словы песні склала беларуская паэтка К.Буйло, а музыку – беларускі кампазітар М.Равенскі (паказваецца партрэт). Але многія кампазітарскія песні сталі папулярнымі і любімымі ў народзе, гучаць як народныя. Гэта найвышэйшае шчасце для аўтараў, калі песня «жыве» ў народзе. Так здарылася і з песняй «Люблю наш край». Развучым яе.

1. Лю - блю наш край – ста - рон - ку гэ - ту, дзе я ра -
дзі - ла - ся, ра - сла, дзе пер - шы раз па -
зна - ла шча - сце, сля - зу ня - до - лі пра - лі - ла. - // ла.

2. Люблю народ наш беларускі
І хаты ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў. } *2 разы*

3. І песню родную люблю я,
Што ў полі жнеі запяюць,
Як гукі звонкія над нівай
Пераліваюцца, плывуць. } *2 разы*

Песня развучваецца па нотным запісу, а капэла (спачатку называем ноты, адпляскваем іх у рытме, затым спяваем па нотах, са словамі). Нотная табліца дапаможа хутчэй і дакладней развучыць мелодыю (нават, калі дзеці не ведаюць нот) і неназойліва знаёміць з нотнай граматай. Асноўныя тэхнічныя цяжкасці ў песні – высокія гукі, якія павінны быць выкананы лёгка, інтанацыйна чыста, без напружання. Можна выкарыстаць такі прыём: верхні голас пяюць добра спяваючыя вучні, а ніжні – астатнія дзеці разам з настаўнікам. Папрасіць іх цягнуць галосныя гукі, спяваць звязна, браць удых у тых месцах, дзе ўказана ў нотным тэксце, а таксама ўтрымліваць ланцужковае дыханне. Гаворым, што спевы павінны «цячы як вада ў рацэ». Часам вучні пачынаюць спяваць «ад душы», а таму іх спевы пераходзяць у крык. Трэба сказаць, што гучна спяваць не значыць спяваць прыгожа. На гэтым уроку развучваецца ўся песня.

– Паслухайце прымаўкі беларускага народа. Аб чым яны нам гавораць? У чым праяўляецца роднасць з песняй?
– Дзе родны край, там і пад елкай рай.
– Усюды добра, а дома лепей.
– Радзіма – матка, чужына – мачыха.
– Бацькаўшчыны не купляюць і не прадаюць.
– Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы.
– На чужой старане і вясна не красна.
– Усякай птушцы сваё гняздо міла.

Добра абагульніць з вучнямі: – Як бачым, у таленавітага беларускага народа акрамя песень ёсць нямала мудрых слоў, якія выхоўваюць у чалавека пачуццё патрыятызма – любові і вернасці свайму краю, народу. Сёння мы ўжо сустрэліся з кампазітарскімі песнямі. Назавіце знаёмыя вам па папярэдніх класах беларускія народныя песні.

Вучні называюць песні, а затым выконваюць іх (па адным куплеце). Можна прыцягнуць да выканання музычныя інструменты і акампаніраваць спевам.

– Сёння на ўроку гучалі розныя песні – і кампазітарскія, і народныя. Падумайце і адкажыце, ці аб усіх песнях можна сказаць, што «песня – душа народа?» (...).

**Агляд рэпрадукцый.**

Далей настаўнік развешвае на дошцы рэпрадукцыі карцін беларускіх мастакоў: «Блакітнай вясной,» «Восень», «Беларускія прасторы» (ці іншыя) і пытае:

– Аб чым гэтыя карціны?

Школьнікі разглядаюць рэпрадукцыі. У гэты час гучыць «Мелодыя» І.Жыновіча.

На фоне прыглушанага гучання музыкі настаўнік чытае радкі Н.Гілевіча:

«Я хаджу, закаханы ў твае краявіды,
І шапчу як прызнанне: О, мой край дарагі!»

– Аб нашым краі! Аб беларускай прыродзе..., – адказваюць вучні.
– У чым роднасць гэтых карцін з песнямі, якія сёння гучалі? (...). Чаму ў музыцы і ў жывапісу сустракаюцца такія тэмы (вобразы)? (...).

**Выкананне «Гімна Беларусі».**

– Закончым урок песняй, якую лічаць музычным сімвалам краіны. Што гэта за песня? ( Гімн ).

Што азначае слова «гімн?» (...). Так, гэта хвалебная, урачыстая песня. Вядомы розныя гімны: рэлігійныя, дзяржаўныя, рэвалюцыйныя, у гонар якой-небудзь гістарычнай падзеі; прысвечаныя гораду, працы... У кожнай дзяржавы ёсць свой гімн. Ён слухаецца і выконваецца стоячы. Як гучыць гімн, у якім характары? (...).

Вучні стоячы выконваюць «Гімн Беларусі». Словы ёсць у падручніку, а мелодыя ўжо знаёма дзецям, паколькі яны слухалі «Гімн» у папярэдніх класах.

– А ведаеце, нашаму «Гімну» шмат гадоў. Першага кастрычніка 1955 г. па нацыянальным радыё ўпершыню ў якасці гімна прагучала песня «Мы – беларусы» кампазітара Н.Сакалоўскага на словы паэта М.Клімковіча. На той час гэта песня была ўжо добра вядомая для беларусаў. Яна часта гучала ў клубах і дамах культуры, на канцэртах і ўрачыстых вечарах. Песня «Мы – беларусы» перамагла ў конкурсе на званне гімна сярод другіх прапанаваных песень. У 2002 годзе зноў адбыўся конкурс песень на званне гімна. Вядомымі беларускімі кампазітарамі і паэтамі былі напісаны ўрачыстыя песні з прыгожымі мелодыямі і ўзнёслымі вершамі. Прапанавалася таксама і знаёмая вам песня «Радзіма мая дарагая». Як вы думаеце, рабяты, ці магла гэта песня называцца гімнам? Чаму? (...). Але ўсё ж у нас другі гімн. Уладзімір Карызна, вядомы беларускі паэт, рызыкнуў выкарыстаць ужо знаёмую мелодыю Н.Сакалоўскага. Ён захаваў аснову тэкста М.Клімковіча, дапісаў свае радкі і такім чынам прыдаў словам сучаснае гучанне. Вось так атрымаў новае жыццё гімн 1955 года.

**Хатняе заданне.**

Ваша хатняе заданне: слухайце песні па радыё і тэлебачанню і вызначайце іх від. Што характэрнае народным песням вы заўважыце?

**Выхад з класа** пад песню «Радзіма мая дарагая».

# УРОК 2

## Тэма: *Песенная спадчына беларускага народа. Неабрадавыя песні: калыханкі, лірычныя, жартоўныя*

*Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына.*
Я.Купала

**Мэта:** пашырыць знаёмства з беларускай народнай песеннай творчасцю.

**Задачы**: – раскрыць сутнасць неабрадавых песень, пазнаёміць з асобнымі відамі: калыханкамі, лірычнымі, жартоўнымі;
– выявіць некаторыя асаблівасці беларускіх народных песень;
– развіваць пеўчыя навыкі (спяваць на ланцужковым дыханні);
– выклікаць інтарэс і любоў да народнай песні;
– выхоўваць патрыятычныя пачуцці.

**Тып урока:** паглыбленне ў тэму.

**Музычны матэрыял:** – «Радзіма мая дарагая». Словы А.Бачылы, музыка У.Алоўнікава.
– «Люблю наш край». Словы К.Буйло, музыка М.Равенскага.
– «Рэчанька». Беларуская народная песня.
– «Сабірайся ў госці, мой дзядок». Беларуская народная песня.
– «Гімн Беларусі». Словы М.Клімковіча і У.Карызны, музыка Н.Сакалоўскага.
– Калыханкі (знаёмыя па папярэдніх класах).

**Абсталяванне:**
– таблічка з тэмай урока;
– плакат з эпіграфам;
– нотныя табліцы песень: «Сабірайся ў госці, мой дзядок», «Люблю наш край»;
– партрэты: У.Алоўнікава, М.Равенскага;
– фоназапіс твораў: «Радзіма мая дарагая» (у выкананні саліста), «Рэчанька», «Гімн Беларусі».

## *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**
Школьнікі ўваходзяць у клас пад песню «Радзіма мая дарагая» на гэты раз ў выкананні саліста, слухаюць яе, называюць песню і аўтараў.
– У якім выкананні прагучала гэта песня сёння? Хто заўважыў? (...). Якое выкананне вам спадабалася больш? Чаму? (...). Выконваецца развучаны фрагмент песні.

**Выкананне песні «Люблю наш край».**
– Пазнайце па музычнай інтанацыі знаёмую вам песню (гучыць інтанацыя песні «Люблю наш край»). Вучні называюць песню, яе аўтараў. Далей вядзецца работа над выкананнем: над выразным прагаворваннем слоў, працяжным, распеўным гукам пры спяванні. Можна прапанаваць дзецям дапамагаць голасу «цягнуць гук» плаўнымі рухамі рук. Настаўнік працуе над тым, каб песня гучала на ланцужковым дыханні (без «дзірачак» у спевах). Часам вучні пачынаюць злёгку пакалыхвацца ўправа-ўлева, калі выконваюць песню. Не трэба іх стрымліваць, але назіраць, каб гэтае пакалыхванне не пераўтварылася ў балаўство. Вельмі важна, каб настаўнік змог «заразіць» вучняў эмоцыяй любві, гордасці, захаплення і «заставіў» іх спяваць «з душой».

**Уводзіны ў тэму ўрока.**
Пасля выканання песні настаўнік вывешвае на дошцы плакат з тэкстам, выразна чытае яго (або спявае):

«Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына».

*Я.Купала*

– Расшыфруйце думку паэта, – прапануе настаўнік.
Дзеці адказваюць, настаўнік працягвае: – Спадчына бывае розная! Мы ж будзем знаёміцца з музычнай спадчынай. А гэта – песні, танцы, інструментальныя най-

грышы і мелодыі беларускага народа. Сёння мы пачынаем тэму «Песенная спадчына беларускага народа» (вывешваецца таблічка з тэмай).

– Шмат хараства і глыбокага зместу закладзена ў беларускай народнай песні, шмат мудрасці, трывогі і радасці, святла і горычы, шчырай любові і праўды. У песнях чуваць, аб чым народ сумуе і да чаго рвецца яго душа. У далёкім мінулым узнікалі розныя песні, якія суправаджалі ўсё жыццё чалавека: калыханкі, дзіцячыя, жартоўныя, гульнёвыя, лірычныя, працоўныя і інш. Вы ўжо добра ведаеце навошта прызначаліся, напрыклад, калыханкі? (Каб закалыхаць самых маленькіх дзяцей).

– Як іх спяваюць? (Спакойна, напеўна, ціха, няспешна, пяшчотна).

Выконваецца калыханка, знаёмая дзецям па папярэдніх класах.

**Слуханне песні «Рэчанька».**

– Так жа напеўна, спакойна і няспешна гучаць і лірычныя песні. Яны прадстаўляюць сабою роздум чалавека аб жыцці, аб сваёй долі. Часам – гэта ўнутранае перажыванне аб чым-та важным. Часта ў іх пяецца аб любві да роднай зямлі, прыроды. Вось паслухайце лірычную беларускую народную песню «Рэчанька» (слухаюць).

– Якімі пачуццямі пранікнута песня? (...).

– Аб чым яна? (...).

– Чаму так ласкава названа песня «рэчанька», а не «рака?» (...).

**Развучванне песні «Сабірайся ў госці, мой дзядок».**

– Многа жартоўных і сатырычных песень ёсць у беларускага народа. Гэта вясёлыя, заўзятыя, рухомыя песні. (Напрыклад, настаўнік спявае фрагменты песень «Камар лазню тапіў», «Чаму ж мне не пець» і інш.). Сёння мы развучым жартоўную беларускую народную песню «Сабірайся ў госці, мой дзядок». Паслухайце яе і адкажыце: «Аб чым у ёй пяецца? Ці бывае так у нашым жыцці?»

1. Са - бі - рай - ся ў гос - ці, мой дзя - док, са - бі - рай - ся

6 ў гос - ці, га - лу - бок. - - - Не пай - ду ў гос - ці

11 – хо - лад на два - ры, а мне ло - міць кос - ці, я ж ў - жо ста - ры.

2. – Сабірайся ў госці, мой дзядок,
Сабірайся ў госці, галубок.
– Не пайду ў госці, – я ж табе кажу:
Лепш на цёплай печы трошкі паляжу.
3. – Як не пойдзеш у госці, грошай дай:
Трэба ж мне занесці каравай.
– Бяры сабе грошы, – ці мне іх шкада?
Толькі адчапіся ад мяне, бяда!
4. – Дык ляжы на печы, стары дзед!
А мяне ў госці павядзе сусед.
– Пачакай, Ганулька, не спяшай:
Пойдзем разам у госці, мяне не кідай!

Пасля таго, як вучні адкажуць на пытанні, можна прыступіць да развучвання песні (без суправаджэння). Зноў на дапамогу настаўніку можа прыйсці нотная табліца.

– Паглядзіце ўважліва на нотны запіс. Я буду спяваць і паказваць напрамак мелодыі. (Настаўнік спявае два першыя сказы). Што вы заўважылі?

– Мелодыя паўтараецца … Словы амаль што такія ж …

– Слушна! (Настаўнік яшчэ раз спявае, пацвярджае думкі вучняў). Гэта адна з асаблівасцей беларускіх народных песень – паўтарэнне слоў і мелодыі. Праспявайце разам са мною. (Спяваюць). Што яшчэ вы пачулі, характэрнае народным песням? (Распевы слоў).

– Так. Паглядзіце яшчэ раз, як абазначаецца распеў. (Настаўнік указкай звяртае ўвагу на словы «дзядок», «галубок», спявае). Што надае распеў гэтым словам? (Ласкавасць). Праспяваем гэту частку песні – словы жонкі – добра выканаем распеў.

Вучні разам з настаўнікам сочаць па нотным запісу, спяваюць два першыя сказы.

– Паслухайце адказ дзеда. ( Настаўнік спявае ўсю другую частку песні). Вы бачыце, мелодыя «перайшла» ў высокі рэгістр. Гэтым яна нібы перадае крыклівыя інтанацыі «дзеда». Развучым яго мелодыю (спяваюць). Услухайцеся і праспявайце дакладна мелодыю на словах «А мне ломяць косці». Паглядзіце, як яна рухаецца (настаўнік спявае, а затым адпрацоўвае з вучнямі па нагляднасці дадзены фрагмент).

– Выканаем першы куплет цалкам (спяваюць). Вы звярнулі ўвагу на тое, што песня створана ў форме дыялога? Гэта яшчэ адна з асаблівасцей народных песень. Назавіце герояў песні. (Жонка, дзед). Давайце выканаем словы жонкі і яе мужа з патрэбнымі інтанацыямі. Якімі? (...).

Зноў выконваецца першы куплет. Хутчэйшаму развучванню песні дапамогуць загатоўленыя «лістоўкі» з тэкстам. Можна ўжо на гэтым уроку спяваць у выглядзе дыялога: дзяўчынкі – «жонка», хлопчыкі – «дзед».

**Вынік урока.**

– Песні, аб якіх мы сёння гаварылі, не патрабуюць якіх-небудзь спецыяльных (абрадавых) дзеянняў. Такія песні называюць *неабрадавыя* (настаўнік вывешвае таблічку «неабрадавыя песні: калыханкі, лірычныя, жартоўныя» да тэмы урока: «Песенная спадчына беларускага народа»). Размову аб неабрадавых песнях мы прадоўжым на наступным уроку. А зараз адкажыце: што ж характэрна народным песням? (…).

Пачынаецца запаўненне табліцы, якая з гэтага моманту будзе вісець на дошцы на уроках, прысвечаных беларускім народным песням.

| *Асаблівасці беларускіх народных песень* |
| --- |
| - **распевы ў словах**<br>- **паўтарэнні мелодыі, слоў**<br>- **форма дыялога**<br>- **ужыванне нязвычных слоў («люлі»)** |

Настаўнік чапляе на табліцы карткі з патрэбнымі тэрмінамі.

– Хто дома слухаў песні і выявуляў іх від (народныя ці кампазітарскія)? Што вы яшчэ заўважылі такога, што адрознівае народную песню? ( Спяваюць па-асобаму – адкрытым гукам, з «пераліваімі», з «падводкай» і інш.).

– Добра! Занясем у нашу табліцу «асобая манера спявання».

**Хатняе заданне.**

– Сёння вы атрымліваеце наступнае творчае заданне. Запішыце ў сшытках урывак з верша:

Радасна і сумна шалясцяць асіны,
Радасна і сумна шалясцяць дубы.
У кляновых лісцях віснуць павуціны,
У срабрыстых ніцях жоўтыя сады.

*А.Куляшоў*

– Прачытайце дома некалькі разоў гэтыя радкі, услухайцеся ў іх, пачуйце, якая мелодыя можа адлюстраваць настрой, рытм верша. Паспрабуйце стварыць мелодыю ў народным «духу». Праспявайце дома сваю песню некалькі разоў, каб запомніць мелодыю і дакладна выканаць яе ў класе.

Урок заканчваецца выкананнем «Гімна Беларусі».

**Выхад з класа** пад песню «Радзіма мая дарагая».

# УРОК 3
## Тэма: *Прыпеўкі (частушкі)*

*Песні, знайце, – сэрца дар,*
*Шанаваць іх трэба».*
Я. Купала

**Мэта**: раскрыць сутнасць і назначэнне прыпевак (частушак), паказаць віды.

**Задачы**: – абагульніць веды вучняў аб прыпеўцы;
– развіваць пеўчыя ўменні (спяваць скора, лёгка, добра прагаворваць словы);
– развіваць творчыя здольнасці (ствараць песні, разыгрываць ролі);
– выхоўваць інтарэс і павагу да народнай песні;
– паказаць магчымасці і прыгажосць музычнай апрацоўкі;
– пазнаёміць з сучаснымі выканаўцамі беларускай музыкі.

**Тып урока**: развіццё тэмы.

**Музычны матэрыял**:

– «Спадчына». Словы Я.Купалы, музыка І.Лучанка (у выкананні ансамбля «Песняры»).
– «Школьныя прыпеўкі».
– «Сабірайся ў госці, мой дзядок». Беларуская народная песня.
– «На вуліцы грымата». Беларуская народная песня ў выкананні арт-групы «Беларусы».
– «Гімн Беларусі». Словы М.Клімковіча і У.Карызны, музыка Н.Сакалоўскага.

**Абсталяванне ўрока**: – табліцы з тэмай і эпіграфам;
– нотная табліца песні «Школьныя прыпеўкі»;
– фотаафіша ансамбля «Песняры» (ці відэафільм);
– фотаафіша арт-групы «Беларусы»;
– карціна «Беларускія прыпеўкі» Р.Кудрэвіча (гл. «Беларускі савецкі жывапіс». – Мінск: Беларусь, 1978);
– фоназапіс твораў: «Спадчына», «На вуліцы грымата», «Гімн Беларусі».

### *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**

Вучні ўваходзяць у клас пад песню «Спадчына» ў выкананні ансамбля «Песняры», слухаюць да канца.

– Вам спадабалася песня, пад якую вы ўвайшлі ў клас? (…). Хто з вас слухаў яе раней і ведае, як яна называецца? (…). Можа, распазналі, хто яе выконваў? (…).

Настаўнік паказвае афішу ансамбля «Песняры», расказвае аб ім, гаворыць аб яго папулярнасці не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Добра было б паказаць дзецям відэафрагмент з фільму аб ансамблі.

– Вы не выпадкова ўвайшлі сёння ў клас пад песню «Спадчына». Мы ж вядзем размову аб песеннай спадчыне беларускага народа! Прадоўжым знаёмства з неабрадавымі песнямі. Напомніце, што значыць «неабрадавыя»? (…).

Настаўнік вывешвае табліцу з тэмай папярэдняга ўрока: «Неабрадавыя песні: калыханкі, лірычныя, жартоўныя».

– Звярніце ўвагу на эпіграф сённяшняга ўрока (вывешваецца таблічка):

«Песні, знайце, – сэрца дар,
Шанаваць іх трэба».

*Я.Купала*

– Што значыць «сэрца дар?» (…). Так, народныя песні складаліся па-рознаму. Але заўсёды гэта рабілася «ад душы», «ад сэрца», калі прыходзіла натхненне і душа чалавека прасілася выказацца.

**Творчасць вучняў.**

– Ці было ў вас натхненне, калі вы самі стваралі дома песню? Хто хоча яе выканаць? (Вучні выконваюць свае песні).

– Вы, напэўна, адчулі, што складаць песню вельмі цяжка?! Народныя песні таму і жывуць так доўга, што выпакутаваны стваральнікамі. Яны настолькі праўдзіва перадаюць чалавечыя пачуцці, падзеі, што зразумелы ўсім людзям і любімы імі да гэтай пары.

**Развіццё тэмы: «Песенная спадчына».**

– Зараз я выканаю песню, якую стварылі нашы сучаснікі … дзеці! Вызначыце яе від. (Выконваюцца «Школьныя прыпеўкі»).

– Гэта частушкі!

– Так! Іх яшчэ называюць прыпеўкамі. Як вы распазналі? (…). Што ж гэта за песні – прыпеўкі? Хто ведае? (…). Гэта таксама неабрадавыя песні (настаўнік чапляе картку са словам «прыпеўкі» да тэмы «Неабрадавыя песні: калыханкі, лірычныя, жартоўныя»).

– Прыпеўка – караценькая, вясёлая песня, у якой высмейваюцца адмоўныя рысы чалавека, жыцця… Ёсць розныя прыпеўкі – хуткія, гарэзлівыя, заўзятыя (настаўнік іграе або спявае некалькі прыкладаў). А ёсць – лірычныя, нетароплівыя, задумлівыя (іграе прыклады). Паглядзіце на карціну Р.Кудрэвіча «Беларускія прыпеўкі», услухайцеся ў яе, пачуйце, якія прыпеўкі «гучаць»? (…). У чым жа асаблівасці прыпеўкі? (У тым, што мелодыя і тэкст не звязаны паміж сабой: на вядомыя мелодыі складаюцца розныя па зместу тэксты).

**Развучванне песні «Школьныя прыпеўкі».**

– Зараз вы праслухалі «Школьныя прыпеўкі», у якіх дзеці склалі свае словы на знаёмы частушачны матыў (настаўнік яшчэ раз спявае 1 куплет). Развучым іх.

**Хутка, весела**

1. Я пры - пеў - ку на пры - пеў - ку, як на ні - тач - ку, вя - жу.

5

Да - спя - вай, ма - я сяб - роў - ка, то, што я не да - пя - ю.

2. З звенявым у нас мучэнне:
   Днём і ноччу маецца,
   Не дае нам даручэнняў –
   Сам за ўсіх стараецца.
3. Эх, ты, Жора – галава:
   Колькі будзе дважды два?
   Ён і гэтак, ён і сяк,
   А таблічкі аніяк.
4. Як урокі ўсе зраблю,
   Кніжкі я чытаю,
   Гультаёў я не люблю,
   Усюды іх пазнаю.

Песня развучваецца з апорай на нотны запіс, каб пазбегнуць памылак у мелодыі (на слыху ў дзяцей розныя частушачныя мелодыі): называем ноты ў рытме, сальфеджыруем, спяваем са словамі. Спачатку трэба спяваць не хутка, выразна выдзяляць голасам кожны склад, як бы фіксаваць мелодыю, услухоўвацца ў яе і любавацца частушачнымі інтанацыямі. Калі песня будзе развучана, выканаць яе ў характары: хутка, гульнёва, лёгка, з патрэбнымі моўнымі інтанацыямі, магчыма, з выразнымі рухамі рук.

**Хатняе заданне.**

– Каб скласці добрую прыпеўку, трэба таксама мець да гэтага дар сэрца! Яно падказвае складальніку, як з дапамогай караценькай песні пазбавіць, напрыклад, сябра ад чагосьці дрэннага ў характары, або ў паводзінах і пры гэтым яго не пакрыўдзіць! Паспрабуйце дома скласці такую прыпеўку аб сваім сябры. (Можна на тэму: «Наш клас», «Дзяўчынкі нашага класа», «Хлопчыкі нашага класа»).

**Выкананне песні «Сабірайся ў госці, мой дзядок». Разыгрыванне песні па ролях.**

– Якую вы ведаеце песню, блізкую па характару, настрою прыпеўкам? ( «Сабірайся ў госці, мой дзядок» ).

Спачатку песня выконваецца ўсім класам, а затым у форме дыялога. Важна, каб вучні выконвалі яе інтанацыйна выразна (з патрэбнымі інтанацыямі). Калі хопіць часу, можна песню разыграць (з атрыбутамі).

**Слуханне песні «На вуліцы грымата».**

– А зараз паслухайце беларускую народную песню «На вуліцы грымата» і адкажыце: да якога віду неабрадавых песень яе можна аднесці: да лірычных, жартоўных ці частушак? А таксама звярніце ўвагу на тое, як яе выконваюць. (Слухаюць) .

– Гэта жартоўная песня!

– Чаму вы так лічыце? ( Яна блізкая па характару да песні «Сабірайся ў госці, мой дзядок!». Яе выконвалі мужчынскія галасы … Гучыць па-сучаснаму … Спявалі на некалькі галасоў …).

– Гэту песню выканала сучасная арт-група «Беларусы» (паказваецца фатаграфія ці афіша групы). Сапраўды, песня гучыць у сучаснай манеры, шматгалосна, без суправаджэння (а капэла). Гэта – апрацоўка народнай песні. А што значыць «апрацоўка», хто зможа растлумачыць? (…). Сучасныя выканаўцы часта звяртаюцца да народнай песні і спяваюць яе на сучасны лад – перапрацоўваюць: упрыгожваюць мелодыю падгалоскамі (дабаўляюць яшчэ адну мелодыю, часта вельмі простую, якая спяваецца ніжэй або вышэй асноўнай мелодыі), развіваюць яе варыяцыйна (кожны куплет гучыць са змяненнямі) ці ў выглядзе канона (галасы спяваюць неадначасова, а нібы гуляюць у даганялкі), распісваюць на некалькі галасоў, прыдумваюць цікавае інструментальнае суправаджэнне і г.д. Апрацоўку песні «На вуліцы грымата» зрабіў кіраўнік групы «Беларусы» Валерый Шмат. Вы заўважылі, у пачатку песні чутны прыродныя гукі? Якія? (Гром!). Што гэта надало гучанню песні? (Праўдзівасць). Паслухайце яе яшчэ раз і адчуйце прыгажосць апрацоўкі. (Слухаюць).

**Вынік урока.**

– Што можна сказаць аб беларускім народзе, праслухаўшы і выканаўшы жартоўныя песні і прыпеўкі? (…)

Урок заканчваецца выкананнем «Гімна Беларусі».

**Выхад з класа** пад песню «Спадчына».

# УРОК 4
# Тэма: *Працоўныя песні*

*З песняю і работа ідзе спарней.*
Беларуская прымаўка

**Мэта:** паказаць жыццёвую аснову працоўных песен, выявіць іх змест, характэрныя асаблівасці.

**Задачы:**
– развіваць пеўчыя ўменні (спяваць а капэла, на ланцужковым дыханні);
– развіваць творчыя здольнасці (ствараць песні, разыгрываць ролі);
– выхоўваць інтарэс і любоў да народнай песні;
– паказаць сувязь мастацтва з жыццём.

**Тып урока:** паглыбленне ў тэму «Песенная спадчына беларускага народа».
**Музычны матэрыял:**
– «На вуліцы грымата». Беларуская народная песня.
– «Школьныя прыпеўкі».
– «Ох, і сеяла Ульяніца лянок». Беларуская народная песня.
– «Гімн Беларусі». Словы М.Клімковіча і У.Карызны, музыка Н.Сакалоўскага.

**Абсталяванне ўрока:**
– табліцы з тэмай урока, эпіграфам;
– рэпрадукцыі карцін: «Ля канвеера МТЗ» Я.Красоўскага, «На зямлі беларускай» В.Цвіркі, «На рыштаваннях» П.Гаўрыленкі (гл. «Беларускі савецкі жывапіс». – Мінск, Беларусь, 1978);
– нотная табліца песні «Ох, і сеяла Ульяніца лянок»;
– фоназапіс твораў: «На вуліцы грымата», «Ох, і сеяла Ульяніца лянок», «Гімн Беларусі».

## *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**

Вучні заходзяць у клас пад песню «На вуліцы грымата», слухаюць, называюць песню, выканаўцаў.

– Аб якіх песнях мы гаварылі на папярэдніх уроках? ( Аб неабрадавых). Назавіце іх віды. (Калыханкі, лірычныя, жартоўныя, частушкі).

Настаўнік вывешвае таблічку з тэмай «Неабрадавыя песні: калыханкі, лірычныя, жартоўныя, прыпеўкі».

– А што ёсць агульнага паміж, напрыклад, жартоўнымі песнямі і прыпеўкамі? (…). Што іх адрознівае?

– Многія мелодыі прыпевак выкарыстоўваюць некалькі разоў! Складаюць словы на ўжо знаёмыя мелодыі, – адказваюць дзеці.

**Творчасць вучняў.**

– Так, і сёння, я думаю, вы ў гэтым яшчэ раз упэўніцеся, калі будзеце выконваць свае прыпеўкі (частушкі). Хто склаў прыпеўку і хоча нам яе праспяваць? (Вучні спяваюць свае прыпеўкі, а потым лепшыя з іх выконваюцца ўсім класам).

**Выкананне песні «Школьныя прыпеўкі».**

– А зараз усе разам праспяваем «Школьныя прыпеўкі».

Удакладняецца выканальніцкі план песні. Напрыклад, у першым куплеце першы сказ спявае адна вучаніца, а наступны – другая (як бы падбухторваючы адна другую). Другі куплет могуць выконваць толькі хлопчыкі. У трэцім куплеце – «пытаюць» дзяўчынкі, а «адказваюць» хлопчыкі і г.д. Каб песня прагучала больш выразна, можна выкарыстаць рухі (у адпаведнасці з тэкстам).

**Уводзіны ў тэму ўрока.**

– Як бачна з песень, беларускі народ умеў весяліцца і радавацца жыццю. Але ж праца заўсёды займала і займае ў жыцці чалавека адно з галоўных месцаў. Не выпадкова існуюць прымаўкі і прыказкі аб працы ў кожнага народа. Напрыклад, руская прымаўка – «Без труда нет добра», беларуская – «Весела пяецца, весела і прадзецца». Эпіграфам нашага сённяшняга урока з'яўляецца беларуская прымаўка: «З песняю і работа ідзе спарней» (настаўнік вывешвае таблічку з тэкстам на дошцы). Вы згодны з думкаю нашага народа? Дакажыце гэта. (…).

– Сёння мы пагаворым аб працоўных песнях. (Настаўнік чапляе картку «працоўныя песні» да тэмы: «Неабрадавыя песні»). Працоўныя песні – памочнікі чалавека. Яны спяваліся непасрэдна ў працэсе працы. Рытм такіх песень, камандныя воклічы дапамагалі працаваць цэлай групе людзей больш дружна і арганізавана (на вырубліванні леса, на будаўніцтве дома і г.д.). Напрыклад, настаўнік пяе:




Многія працоўныя песні, звязаныя з працай на зямлі, расказваюць аб ёй. Напрыклад,



**Развучванне песні «Ох, і сеяла Ульяніца лянок».**

– Услухайцеся, якая праца адлюстравана ў гэтай песні?

Настаўнік спявае песню «Ох, і сеяла Ульяніца лянок». (Глядзі падручнік «Музыка 4 клас»).

– Сельскагаспадарчая! Дамашняя!

– Хто ведае, што такое лён, бачыў як ён цвіце, якім колерам? (…). Што робяць са льна? (…). Каб атрымаць льняное палатно, трэба перарабіць шмат працы. Якой? Знайдзіце адказы ў песні «Ох, і сеяла Ульяніца лянок». (Вучні звяртаюцца да тэкстаў у падручніку і адпавядаюць настаўніку.)

– Як завуць гераіню песні? (Ульяна Іванаўна). Як вы думаеце, чаму амаль што кожны куплет пачынаецца воклікам «Ох?» (…). (Настаўнік чапляе картачку з тэкстам «наяўнасць воклічаў, напрыклад, «Ох» у табліцу «Асаблівасці беларускіх народных песень»). Паслухайце першы куплет і вызначыце на слых (!), якія асаблівасці народнай песні тут сустракаюцца? (Спявае).

– Паўтарэнне музычных фраз, слоў, распеў …

– Развучым песню з дапамогай нагляднасці і, як заўсёды, без суправаджэння, так, як спявалі народныя пяюхі.

Спачатку можна сальфеджыраваць (спяваць па нотах), а можна адразу развучваць са словамі, гледзячы на нотны запіс (ён дапаможа хутчэйшаму асваенню мелодыі). Калі клас можа спяваць на два галасы, песня развучваецца двухгалосна. У гэтым выпадку першы голас могуць спяваць вучні (6-8 чалавек) з добрымі вакальнымі здольнасцямі, другі – астатняя частка класа з дапамогай настаўніка. Калі клас спявае не вельмі добра, песня развучваецца аднагалосна. Але і тут можна ўвесці нескладаны для выканання падгалосак, які можна спяваць на адным ці некалькіх гуках: вышэй, або ніжэй асноўнай мелодыі (як гэта рабілі старадаўнія майстэрскія спявачкі). Няхай вучні паспрабуюць яго скласці самі. Пры развучванні мелодыі і слоў песні, дабівацца ад дзяцей лёгкага, рухавага гуку, у той жа час пявучага; дакладнага распеву ў слове «лянок» у прыпеве. А таксама звярнуць увагу на розныя інтанацыі вокліча «Ох». Добра, калі чацверакласнікі адчуюць, у якім куплеце яго трэба выконваць радасна, а ў якім – з інтанацыяй «стомленасці», «раздражняльнасці».

**Хатняе заданне.**

– Рабяты, песня «Ох, і сеяла Ульяніца лянок» – гульнёвая. Таму яна можа суправаджацца адпаведнымі рухамі, якія імітуюць тыя віды працы, аб якіх пяецца ў песні. Дома прыдумайце рухі да песні. Гэта і будзе вашым творчым заданнем.

**Агляд рэпрадукцый.**

– А зараз паглядзіце на гэтыя карціны. Вось працуюць рабочыя на заводзе (паказваецца карціна «Ля канвеера МТЗ»), вось калгасніцы вяртаюцца з поля (карціна «На зямлі беларускай»), а вось – будаўнікі (карціна «На рыштаваннях»). Існуе многа іншых карцін, якія ўсхваляюць працу чалавека. Як вы думаеце, чаму і мастакі адлюстроўваюць гэту тэму ў сваёй творчасці? (…). Пагаварыце дома з роднымі аб тым, якое значэнне ў іх жыцці займае праца.

Урок заканчваецца выкананнем «Гімна Беларусі».

**Выхад з класа** пад песню «Спадчына».

# УРОК 5

## Тэма: *Каляндарна-абрадавыя песні: купальскія*

*Песня – люстэрка жыцця народа.*

**Мэта:** Раскрыць сутнасць каляндарна-абрадавых песень на аснове купальскіх песень.

**Задачы:**
– абагульніць веды вучняў аб купальскім свяце;
– паказаць сучаснасць гучання купальскіх песень на прыкладзе творчасці ансамбля «Песняры»;
– развіваць пеўчыя ўменні (спяваць а капэла, на ланцужковым дыханні);
– развіваць творчыя здольнасці;
– выхоўваць інтарэс і павагу да традыцый і звычаяў беларускага народа;
– фарміраваць нацыянальную самасвядомасць.

**Тып урока:** паглыбленне ў тэму «Песенная спадчына беларускага народа».

**Музычны матэрыял:**
– «Ох, і сеяла Ульяніца лянок». Беларуская народная песня.
– «Ой, рана на Йвана». Беларуская народная песня.
– «Гімн Беларусі». Словы М.Клімковіча і У.Карызны, музыка Н.Сакалоўскага.

**Абсталяванне ўрока:**
– табліцы з тэмай і эпіграфам;
– рэпрадукцыі: «На купаллі» М.Чэпіка, «Ноч на Йвана Купалу» М.Філіповіча (гл. «Беларускі савецкі жывапіс». – Мінск: Беларусь, 1978);
– нотная табліца песні «Ой, рана на Йвана»;
– фоназапіс твораў: «Ой, рана на Йвана» ў выкананні жаночага хора, ансамбля «Песняры», «Гімн Беларусі».

### *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**

Вучні ўваходзяць у клас пад песню «Ох, і сеяла Ульяніца лянок», слухаюць і адначасова спяваюць; называюць яе. Далей вядзецца праца над выкананнем песні. Настаўнік працуе над тым, каб песня выконвалася лёгка, жвава, пявуча; каб воклік «Ох» гучаў з рознымі інтанацыямі (радасна, стомлена, бойка, горда).

**Творчасць вучняў.**

– Каб песня загучала больш выразна, давайце выкарыстаем выяўленчыя рухі. Хто пакажа рухі да кожнага куплета? Хто дома папрацаваў над гэтым?

Школьнікі паказваюць рухі. Найлепшыя ўзоры рухаў паўтараюцца ўсім класам (сумесная калектыўная творчасць). Можна спачатку адпрацаваць толькі рухі ў патрэбнай накіраванасці, а затым выканаць іх ужо пры спяванні.

**Уводзіны ў тэму ўрока.**

– Прадоўжым размову аб песеннай творчасці беларускага народа. Сёння мова пойдзе аб каляндарна-абрадавых песнях (вывешваецца таблічка з тэмай урока). Услухайцеся: каляндарна-абрадавыя … Што азначаюць гэтыя словы? Давайце паспрабуем выявіць іх сутнасць. Што напамінае вам слова «каляндарныя»? ( Каляндар). Што гэта такое? (…). Ад слова «календы», у рымлянаў першы дзень месяца. Каляндар – роспіс (у кнізе, табліцы) усіх дзён у гаду. А слова «абрадавыя?» (…). Так, абрад – гэта значыць чыніць традыцыйныя дзеянні (цырымонію). Напрыклад, скакаць праз вогнішча, купацца ў рацэ ў ноч на Йвана Купалу і г.д. Большасць абрадаў адыходзіць сваімі каранямі ў язычніцкую эпоху, калі людзі пакланяліся Сонцу і Зямлі, Ветру і Дажджу, жывёлам, раслінам … Але многія абрады былі звязаны са зменай часу года (з календаром), з сельскагаспадарчымі працамі. Зімовыя, восеньскія, летнія і асеннія абрады ўносілі ў жыццё селяніна свята. Калектыўнае спяванне, тэатралізаваныя дзеянні, інструментальнае музыцыраванне – усё гэта складала ў той час духоўнае жыццё чалавека. Песні, якія былі прыстасаваныя да дню каляндара і пад якія чыніліся абрады, называюць каляндарна-абрадавыя. Аб усіх такіх песнях мы не зможам пагаварыць. Разгледзім толькі свята «Купалле». Да якога дню календара яно прымацавана і які абрад чынілі, святкуючы Купалле? Хто ведае? (…). Чаму так называлі – «Купала», «Купалле»? (…). «Купала» – назва старажытнага язычніцкага свята Ярылы-сонца (купець – гарэць), якое супадае з апошнім днём летняга сонцастаяння (24 чэрвеня па старому стылю). У песнях падкрэслівалася, што свет і цяпло, якое выпраменьвае сонца, дасягаюць у гэты дзень найбольшай сілы і што купальская ноч – самая кароткая ў годзе.

Настаўнік спявае:



– З устанаўленнем хрысціянства свята стала называцца Іванам Купалай ці Іванавым днём (у гонар святога Івана, Яна, Іоанна). У народным уяўленні слова «Купала» звязвалася яшчэ з іменем міфалагічнй істоты жаночага полу – «Купалы». Так называлі і традыцыйнае саламянае чучала, у гонар якога спявалі песні, вадзілі карагоды. На прыканцы свята чучала палілі і тапілі ў рацэ. У ноч на 24 чэрве-

ня (па новаму стылю з 6 на 7 ліпеня) раскладвалі вогнішча, праз якое ўсе па чарзе скакалі, паказвалі тым самым сваю лоўкасць (гэта яшчэ было абрадавае ачышчэнне агнём перад пачаткам уборачных прац); насілі (як і на масленіцу) на высокіх жэрдках пылаючыя калёсы, скатвалі іх у ваду, пускалі вогнішча на платах. Дзяўчаты плялі вянкі, кідалі іх у раку, варажылі на свайго нарачонага. Моладзь купалася ў рэках, азёрах (ачышчалася вадою). Да часу летняга сонцастаяння паспявалі травы. Верылі, што ў Іванаву ноч цвіце нават папартнік і нібы яго дзівосная кветка можа ўказаць на скрытыя ў зямлі скарбы. Збіралі лекавыя расліны. Думалі, што яны валодаюць асобай гаючай сілай. Прысутніцтва ўсяго насельніцтва вёскі на купальскім свяце лічылася абавязковым. «Хто не выйдзе на Купайла, таго ўдарыць немач», – верылі людзі.

**Развучванне песні «Ой, рана на Йвана».**

– Паслухайце купальскую песню, якую мы сёння будзем развучваць, і адкажыце, як яна гучыць, у якім характары? Аб чым у ёй пяецца?

Вывешваецца нотная табліца, спяваецца песня. (Тэкст глядзі ў падручніку «Музыка 4 клас»).

**Спакойна**

Ой, ра - на на Йва - на, ой, ра - на на Йва - на. Про - ці Йва - на

6

ноч - ка ма - ла, ой, ра - на на Йва - на, ой, ра - на на Йва - на.

– Песня гучыць працяжна, пявуча. У ёй спяваецца аб святкаванні Купалля. У песні мы чуем пытанні да Купалы, яе адказы …, – гавораць рабяты.

– Звернемся да нотнай табліцы. Знайдзіце характэрныя асаблівасці народных песень у песні «Ой, рана на Йвана» візуальна.

– Распевы! Паўтарэнні слоў, музычных фраз! …

– Слушна. Развучым песню. Паслухайце яе пачатак, звярніце ўвагу на тое, як я буду распяваць слог «на» у слове «рана». (Настаўнік спявае ў павольным тэмпе дзве аднолькавыя фразы).

– Праспявайце разам са мною. (Спяваюць). Што надаў песні распеў?

– Упрыгожыў! Зрабіў яе больш шырокай, пявучай, працяжнай … .

– Праспяваем яшчэ раз першыя дзве фразы, добра выканаем распеў. (Спяваюць).

– Паслухайце песню далей. Паўтарыце (спяваюць; тут таксама адпрацоўваецца распеў). Выканаем увесь куплет. (Выконваюць).

Далей настаўнік працуе над радаснай інтанацыяй закліка «Ой, рана», гаворыць вучням, што ім невыпадкова пачынаецца кожны куплет. Воклічы «Ой» часта раздаваліся ў святочныя дні ў начным лесе, па берагах рэк і азёраў. Прапануе выканаць дзве першыя фразы прыёмам «рэха»: гучна першую фразу спявае ўвесь клас, а другую – ціха – некалькі чалавек.

На гэтым уроку развучваецца ўся песня. Можна даць вучням заданне стварыць нескладаны падгалосак да песні: на адным гуку, вытрыманым на ўсю фразу.

**Агляд рэпрадукцый або відэафільма.**

– Купальскае свята – вельмі жывапіснае, маляўнічае, самае магічнае і загадкавае. Не выпадкова яму прысвечаны і творы жывапісу.

Настаўнік паказвае рэпрадукцыі «На Купаллі» і «Ноч на Йвана Купалу», абмяркоўвае з вучнямі настрой і сюжэты гэтых карцін. Калі ёсць магчымасць, можна паказаць відэафільм аб святкаванні Купалля.

**Слуханне «Ой, рана на Йвана» ў выкананні ансамбля «Песняры».**

– Ці святкуюць сёння Купалле? (…). Выконваюць купальскія песні? (…). Паслухайце ўжо добра вядомую вам песню ў выкананні сучаснага ансамбля і адкажыце на наступныя пытанні:

– Якая песня прагучыць?

– Хто яе выканае?

– Якія змяненні ў спяванні (у адрозненні з нашымі спевамі) вы заўважыце?

Вучні слухаюць песню «Ой, рана на Йвана» ў выкананні ансамбля «Песняры», адказваюць на пытанні настаўніка.

**Вынік урока.**

– У заключэнне ўрока звернемся да эпіграфа – «Песня – люстэрка жыцця народа». Зыходзячы з музычнага матэрыяла, які гучаў сёння на ўроку, дакажыце, што гэта так. (…).

**Хатняе заданне.**

– Вашым творчым заданнем на наступны ўрок будзе падрыхтоўка да разыгрывання некаторых элементаў купальскага свята.

Настаўнік дзеліць клас на 3 групы, кожная атрымлівае заданне: вывучыць вершы аб Купаллі, прыдумаць танец – карагод з вяночкамі, падрыхтаваць гульню, якую можна будзе разыграць у класе.

**Выкананне «Гімна Беларусі».**

**Выхад з класа** пад песню «Ой, рана на Йвана» (у выкананні жаночага хору ці ансамбля «Песняры» – па выбару настаўніка).

# УРОК 6
# Тэма: *Купалле*

*А на Йвана сонца йграла.*
(З песні)

**Мэта:** Стварыць на ўроку купальскае свята.

**Задачы:**
– замацаваць веды вучняў аб Купаллі;
– развіваць творчыя і музычныя здольнасці;
– развіваць пеўчыя ўменні;
– выхоўваць павагу да традыцый беларускага народа.

**Тып урока:** абагульненне тэмы «Песенная спадчына беларускага народа» (з элементамі драматызацыі).

**Музычны матэрыял:**

– «Купалінка». Беларуская народная песня (ў выкананні ансамбля «Песняры»).
– «Ой, рана на Йвана». Беларуская народная песня.
– «Гімн Беларусі». Словы М.Клімковіча і У.Карызны, музыка Н.Сакалоўскага.

**Абсталяванне ўрока:**

– таблічкі з тэмай урока, эпіграфам;
– атрыбуты да танца;
– рэпрадукцыі карцін аб Купаллі;
– фоназапіс твораў: «Купалінка», «Спадчына», «Гімн Беларусі».

## *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**
На дошчы вывешаны таблічкі з тэмай урока, эпіграфам, растаўлены рэпрадукцыі, прысвечаныя Купаллю (на гэтым уроку яны з'яўляюцца фонам, ствараюць атмасферу купальскага свята). Вучні ўваходзяць у клас пад песню «Купалінка» ў выкананні ансамбля «Песняры», слухаюць да канца. Калі ў настаўніка ёсць магчымасць, добра б выкарыстаць відэазапіс з выступленнем гэтага ансамбля.
– Ці знаёма вам песня, пад якую вы ўвайшлі? (…). Чулі вы яе калі-небудзь? Дзе? (…). Хто яе выконвае? (…). «Купалінка» – якая прыгожая і ласкавая назва! Гэта беларуская народная купальская песня, бадай найбольш папулярная ў нашага народа. І зноў мы пачулі песню ў сучасным гучанні. Аб чым гэта гаворыць? (Аб прыгожасці народнай песні, яе жыватворнай моцы; аб любові нашых сучаснікаў-спевакоў, музыкантаў да народнай песні і г.д.).

**Выкананне песні «Ой, рана на Йвана».**
– Давайце і мы выканаем купальскую песню. Успомніце, якая песня была развучана намі на папярэднім уроку? («Ой, рана на Йвана»). Пастараемся спяваць выразна, «ад душы». (Спяваюць).

**Драматызацыя.**
– «А на Йвана сонца йграла! – гучна абвяшчае настаўнік эпіграф урока. – Хадзіце, дзевачкі і хлопчыкі на вуліцу, будзем пеці і гуляці, будзем агонь раскладаці».

Пачынаецца разыгрыванне купальскага свята. Хлопчыкі «раскладваюць» агонь з гафрыраванай паперы чырвонага колеру, рассаджваюцца вакол «агню». Дзяўчынкі, ў якіх на галавах вяночкі з кветак, водзяць карагод пад песню «Купалінка» (у выкананні «Песняроў»), падпяваюць. З круга выходзіць дзяўчынка – Купала, усе хлопчыкі (ці па адным) у яе пытаюць:

– Ой, Купала, дзе ты сёння начавала?

Купала: Я начавала пад першым снапочкам,
У Йвана на полі, і на лужочку,
І каля рэчкі на беражочку.

Хлопчыкі: Ой, што й ты Купала, дый чувала?

Купала: Я, Купала, за дзевачкамі наглядала,
Што рабілі, што казалі дзевачкі – усё чула.
Ой, дзевачкі ўвесь лужочак істапталі, маладзенькія ўсе кветачкі парвалі, усе кветачкі ў вяночкі паспляталі (дзяўчынкі здымаюць з галавы вяночкі і паказваюць іх).

І кожная па вяночку ў быстру рэчку пускала (дзяўчынкі «выкідваюць» вяночкі ў «раку» – паперу нябеснага колеру, якая ўяўляе раку).

**Гульня.**

Хлопчыкі ўстаюць і пачынаюць гульню «Лес, балота, возера» (Краж, У.М. Беларускія народныя гульні ў школе / У.М.Краж, В.В.Трубчык. – Мінск, 1993).

Змест гульні: чэрціца круг такога памеру, каб у ім змаглі змясціцца ўсе ігракі, а непадалеку – тры кругі прыблізна на аднолькавай адлегласці ад першага. У першы круг становяцца ўсе гуляючыя, а астатнія кругі абазначаюць «лес», «балота», «возера». Вядучы называе звера, птушку, рыбу ці іншую істоту і хутка лічыць да ўмоўнага ліку. Усе бягуць і кожны становіцца ў той круг, які, на яго думку, адпавядае месцу пражывання названага звера, птушкі і г.д. (Напрыклад, у круг «лес» – калі названы воўк, у круг «возера» – калі названы сом). Пераможцам лічыцца той, хто ні разу не памыліўся за ўсю гульню. Калі гульня скончыцца, настаўнік гаворыць: «Усю ноч ля купальскага агню гучалі песні, ладзіліся карагоды, гульні…».

Усе вучні рассаджваюцца па сваіх месцах.

**Абагульненне.**

– Сёння мы завяршаем размову аб песеннай спадчыне беларусаў. З якімі песнямі вы пазнаёміліся на нашых уроках? (…). Што новага вы для сябе пазналі? (…). Што ж характэрна беларускім народным песням? Давайце ўбачым гэта на нашай табліцы, якую мы паступова запаўнялі з урока ў урок.

| *Асаблівасці беларускіх народных песень* |
|---|
| **- распевы ў словах**<br>**- паўтарэнні мелодыі, слоў**<br>**- форма дыялога**<br>**- наяўнасць воклічаў («Ой, ох»…)**<br>**- ужыванне нязвычных слоў («люлі»)**<br>**- асобая манера спявання**<br>**- выкананне з падгалоскамі** |

– Ёсць і іншыя асаблівасці, але мы адзначылі тыя, з якімі сустрэліся на ўроках.

**Выкананне «Гімна Беларусі».**

**Выхад з класа** пад песню «Спадчына».

# УРОК 7
## Тэма: *Танцавальная музыка беларускага народа*

*Мы танцуем, мы гуляем –*
*Аж зямеліка дрыжыць.*
(З песні)

**Мэта:** Зацікавіць вучняў танцавальнай музыкай беларускага народа.

**Задачы:**
– раскрыць тэмы, сюжэты беларускіх народных танцаў;
– падкрэсліць асаблівасці беларускіх народных танцаў;
– пазнаёміць з беларускімі народнымі інструментамі (выгляд, гучанне);
– замацаваць паняцце «варыяцыя»;
– развіваць выканальніцкія ўменні і творчыя здольнасці (ігра ў ансамблі, складанне суправаджэння і інш.);
– развіваць тэмбравы слых;
– выклікаць інтарэс да народнай інструментальнай музыкі;
– выхоўваць патрыятычныя пачуцці ў дзяцей;
– пазнаёміць з сучаснымі выканаўцамі беларускай танцавальнай музыкі, з ансамблем «Свята».

**Тып урока:** развіццё тэмы паўгоддзя.

**Музычны матэрыял:**
– «Чэшка і Смешка». Беларуская полька ў выкананні ансамбля «Свята».
– «Палескі вальс». Беларуская мелодыя ў выкананні ансамбля «Свята».
– «Бульба». Беларуская народная песня-танец.
– «Лявоніха». Беларуская народная песня-танец.

**Абсталяванне ўрока:** – таблічкі з тэмай урока, эпіграфам;
– нотная табліца песні «Бульба»;
– афіша ансамбля «Свята»;
– ілюстрацыі беларускіх народных інструментаў (цымбалаў, баяна);
– музычныя інструменты (бубны, барабаны, бразготкі, трохкутнікі);
– фоназапіс твораў: «Чэшка і Смешка», «Палескі вальс», «Бульба», «Лявоніха».

## *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**

Вучні ўваходзяць у клас пад польку «Чэшка і Смешка» ў выкананні ансамбля «Свята».
– Як можна назваць музыку, пад якую вы ўваходзілі? Які гэта жанр?
– Танец! Полька …
– Які настрой стварыла ў вас гэта музыка? (…). Прагучала беларуская полька «Чэшка і Смешка» ў выкананні вядомага сучаснага беларускага ансамбля народнай

музыкі «Свята» (паказ афішы). Пачалі мы ўрок такой вясёлай музыкай невыпадкова. Сёння будзем гаварыць аб музыцы, якая прызначана весяліць і радаваць людзей. Што гэта за музыка?

– Танцавальная!

– Так, але мы будзем знаёміцца не проста з танцавальнай музыкай, а з танцамі беларускага народа і праз музыку паспрабуем яшчэ глыбей адчуць, пазнаць душу беларусаў (вывешваюцца таблічкі з тэмай ўрока і эпіграфам). Звярніце ўвагу на эпіграф:

Мы танцуем, мы гуляем –
Аж зямеліка дрыжыць.
(З песні)

– Чаму «зямелька дрыжыць?» (…). Сапраўды, танец – гэта рух – яркі, узрыўны, часта з прытопамі, падскокамі. Танцуючы, чалавек адлюстроўвае свой стан душы – радасны, гульнёвы, запальны… .

Беларускія народныя танцы вельмі разнастайныя: адны адлюстроўваюць працу чалавека («Швец», «Каваль»), другія – карціны прыроды («Мяцеліца»), птушак («Варабей», «Зязюлька»). Характэрнай асаблівасцю беларускіх народных танцаў з'яўляецца тое, што многія танцы суправаджаюцца спевамі («Лявоніха», «Янка-полька», «Юрачка», «Козачка» і інш.). Але ёсць і проста танцы – вальсы, полькі, кадрылі (гучыць фрагмент «Палесскага вальса» ў выкананні ансамбля «Свята»).

**Развучванне песні-танца «Бульба».**

– А зараз мы развучым адну з найбольш папулярных беларускіх народных песень-танцаў. Аб чым песня вам падкажуць вось гэтыя радкі:

Мы – з бульбянага краю,
Дзе кожны бульбу саджае …
*Л. Сурпін*

– Аб бульбе!

– А ведаеце, у Беларусі бульбу лічаць другім хлебам. Чаму? (…). Паслухайце песню, якая так і называецца «Бульба». (Слухаюць. Тэкст ёсць ў падручніку «Музыка 4 клас). Які характар песні? Як яна гучыць? (Лёгка, хутка, пругка).

Песня развучваецца без суправаджэння з апорай на нотны запіс. Настаўнік спявае са словамі запеў і адначасова паказвае ўказкай па нотным запісу напрамак мелодыі, звяртае ўвагу на скачкі і распевы.

– Што прыдаюць скачкі мелодыі? ( Танцавальнасць… Размашыстасць). Праспяваем запеў на складзе «пам», ён дапаможа адчуць лёгкасць, пругкасць мелодыі («нібы мячык скача бульбачка»).

Вучні спяваюць, настаўнік карэкціруе якасць гучання. Калі мелодыя запева «загучыць» інтанацыйна чыста, лёгка і ўпэўнена, можна выканаць яго са словамі. Звяртаецца ўвага на распевы і змяшчэнне націска ў словах. Гаворым, што гэта характэрна многім народным песням. Пры развучванні прыпева, трэба звярнуць увагу на дакладнае выкананне складоў «трам-там-там…» (карысна прагаварыць у рытме з лёгкім адпляскваннем). Спяваць спачатку можна ціха, а затым паступова развіваць гучнасць, каб на прыканцы прыпеў гучаў ярка. Спяванне

па нагляднасці дапаможа дзецям убачыць не толькі напрамак мелодыі, але і яе рытм і дзе зрабіць распевы («дзя-к***уй***», «з'я-с***і***»).

**Хатняе заданне.**

– Прыдумайце дома рухі да песні, якія б адпавядалі назве «Бульба» і адлюстравалі б змест песні.

**Слуханне беларускага танца «Лявоніха».**

– Прадоўжым знаёмства з беларускімі народнымі танцамі. «Візітнай карткай» беларусаў лічаць танец «Лявоніху». Ці чулі вы такую назву і такі танец? (…). Хто такі Лявон? (…). Лявоніха? (…).

Настаўнік спявае першы куплет песні, просіць вучняў паўтарыць яго.

– Паслухаем «Лявоніху». Пазнайце, якія інструметы выконваюць гэты танец. У час гучання музыкі пластыкай (рухамі рук) імітуйце ігру на інструменце, які гучыць.

Вучні слухаюць і «іграюць» на ўяўленых інструментах (выкарыстоўваецца метад «пластычнага мадэліравання», прыём «пластычны аркестр»). Настаўнік вызначае, як дзеці распазнаюць гучанне баяна і цымбалаў.

– У якім характары гучала музыка? (…). Назавіце інструменты, якія вы імітавалі (…). Паглядзіце, як яны выглядаюць. (Настаўнік паказвае ілюстрацыі або «жывыя» музычныя інструменты – баян, цымбалы, расказвае аб цымбалах, што гэта шматструнны ўдарны інструмент. Мае маляўнічае гучанне, яркае, звонкае. Цымбалы часта гучалі на вяселлях, вечарынках, святах. Выкарысталіся ў ансамблі з другімі інструментамі).

Выйду на вулку запяю,
Усіх дзевачак сабяру,
Скрыпкі, цымбалкі ўсім найму;
Будзем гуляць досвіту…

– Цымбалы – галоўны інструмент дзяржаўнага народнага аркестра імя І.Жыновіча (паказ афішы аркестра).

**Ігра на музычных інструментах. Творчасць вучняў.**

– З народнымі інструментамі мы прадоўжым знаёмства на наступным уроку. А зараз «пераўтварымся» ў музыкантаў і сыграем «Лявоніху». Настаўнік раздае вучням музычныя інструменты: бубны, барабаны, бразготкі, трохвугольнікі і інш.

– У вашых руках музычныя інструменты. Прыдумайце рытмічнае суправаджэнне да «Лявоніхі». Чые суправаджэнне акажацца больш цікавым, тое і развучыцца ўсім класам (ці групай).

Настаўнік дае дзецям час (2-3 хвіліны), затым праслухоўвае, адбірае лепшыя варыянты, развучвае іх з класам; выконваецца суправаджэнне пад фанаграму ў форме варыяцый (кожная новая варыяцыя – гэта іншае суправаджэнне). Такім чынам, замацоўваецца і паняцце «варыяцыя».

– Дзе можна сустрэцца з народнай танцавальнай музыкай? (…). Ці ёсць у вас знаёмыя – умельцы іграць і ствараць такую музыку? Калі ёсць, раскажыце аб іх. (…).

**Выхад з класа** пад польку «Чэшка і Смешка».

# УРОК 8
## Тэма: *Танцавальная музыка беларускага народа (працяг)*

*Зайграй жа мене, дударочку,*
*А я патанцую.*
(З песні)

**Мэта:** Замацаваць у памяці вучняў найбольш вядомыя беларускія народныя танцы.

**Задачы:**
– знаёміць з гучаннем і выглядам беларускіх народных інструментаў;
– развіваць выканальніцкія ўменні;
– развіваць музычныя і творчыя здольнасці;
– выхоўваць інтарэс да інструментальнай народнай музыкі;
– фарміраваць нацыянальную самасвядомасць.

**Тып урока:** паглыбленне і абагульненне тэмы.

**Музычны матэрыял:**
– «Лявоніха». Беларускі народны танец.
– «Бульба». Беларуская народная песня-танец.
– «Юрачка». Беларускі народны танец.
– «Беларускія мелодыі».
– «Беларусы мы». Словы А.Жукава, музыка В.Шмата.

**Абсталяванне ўрока:**
– таблічкі з тэмай, эпіграфам;
– нотная табліца песні «Бульба»;
– ілюстрацыі беларускіх народных інструментаў;
– афіша арт-групы «Беларусы»;
– музычныя інструменты (бубны, барабаны, бразготкі, трохвугольнікі);
– фаназапіс твораў: «Лявоніха», «Юрачка», «Беларускія мелодыі» (у выкананні інструментальнай групы ансамбля «Харошкі»); «Беларусы мы».

### *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**
Вучні ўваходзяць у клас і слухаюць да канца беларускі народны танец «Лявоніха», называюць яго.

«На сцэне «Лявоніхі» тупат спорны,
На сцэне полька канае ў гуле …»

– Так сказаў аб гэтым танцы беларускі паэт Р.Барадулін. Вы згодны, што «тупат спорны», што «полька канае ў гуле»? ( «Лявоніха» гучыць весела, хутка, як полька … Калі танцуюць польку, то шмат шуму …).

**Распяванне. «Лявоніха» – 1 куплет.**

– Мы ведаем, што «Лявоніха» не толькі танцуецца, але і спяваецца. Успомнім першы куплет і выканаем яго ў характары: весела, пругка. (Спяваюць).

**Далейшая праца над песняй «Бульба».**

– Якую вы яшчэ ведаеце беларускую народную песню-танец, якая таксама гучыць як полька?

– «Бульба»!

Вучні спяваюць, настаўнік працуе над тым, каб песня гучала лёгка, пругка, інтанацыйна – чыста, некрыклівa, «сабраным» (акругленым) гукам, у характары – весела, гульнёва, з запалам.

**Творчасць вучняў.**

– Хто дома прыдумаў рухі да песні? Прадэманструйце іх.

Вучні паказваюць рухі. Настаўнік выбірае найбольш цікавыя і яны развучваюцца ўсім класам (калектыўная творчасць), а затым выконваюцца разам са спевамі.

**Слуханне беларускага танца «Юрачка» (варыяцыі).**

– Зараз вы пачуеце яшчэ адзін беларускі народны танец – «Юрачка». Паслухайце і дакажыце, што гэта народная музыка. (Гучаць варыяцыі на тэму беларускай народнай песні-танца «Юрачка»).

– Гучалі народныя інструменты … Адна і тая ж мелодыя паўтаралася шмат разоў, але ў выкананні розных інструментаў … Гэта форма варыяцый! А мы ведаем, што ў гэтай форме робяць апрацоўкі народнай музыкі …

– Малайцы! А якія інструменты гучалі, хто што пачуў?

– Баян, дудачкі, свістулькі, трохвугольнік …

– Паглядзіце, як выглядаюць гэтыя інструменты (настаўнік паказвае ілюстрацыі ці адкрыткі, на якіх адлюстраваны інструменты або музыканты, якія іграюць на гэтых інструментах – баяне, гармоніку, дудачках, свістульках …). А вось інструмент, які вы не вызначылі па гучанню – жалейка. Чаму яго так назвалі, хто як думае? (…). Так, ён гучыць мякка, пявуча і жаласна, нібы кагосці шкадуе.

– Беларускі музычны інструментарый вельмі багаты і разнастайны. Паслухайце беларускія народныя мелодыі і пастарайцеся пачуць гучанне некаторых музычных інструментаў. Пакажыце рухамі рук тыя, якія пазнаеце: імітуйце ігру.

Гучаць беларускія народныя мелодыі ў выкананні інструментальнай групы ансамбля «Харошкі», вучні пластыкай рук імітуюць ігру на інструментах.

– Вам спадабалася музыка? Чым? (…). Так, музыка запрашала нас танцаваць! Паглядзіце на эпіграф нашага сённяшняга ўрока:

Зайграй жа мне, дударочку,<br>
А я патанцую …

(З песні)

– Дык давайце патанцуем!

Зноў гучыць музыка, вучні танцуюць разам з настаўнікам (танцавальная імправізацыя).

– Назавіце беларускія народныя танцы, з якімі вы пазнаёміліся на нашых уроках. (…). Што ж характэрна для музычнай мовы беларускіх народных танцаў? (…).

**Абагульненне тэмы аб фальклорнай музыцы.**

– Сёння мы завяршаем урокі, прысвечаныя беларускаму музычнаму фальклору. Але гэта не значыць, што мы не сустрэнемся больш з народнай песняй ці танцам. Не! Адкажыце, што дапамагло беларускаму народу скласці такія цудоўныя, разнастайныя песні і танцы?

– Талент! Вясёлы нораў! Шчырасць! Мудрасць! Гумар! Дабрыня!

– Так, тое, чым багата душа беларускага чалавека. Мудрая прымаўка беларускага народа кажа: «Думай добра, рабі добра і будзе добра». Ці не адчулі мы ў народных песнях і танцах гэту дабрыню?! Шчырасць? Гумар? Вясёлы нораў?! Хочацца, каб вы помнілі, што мы – беларускі народ. А таму паважалі і шанавалі нашы традыцыі, звычаі. Ведалі і выконвалі свае беларускія песні і танцы.

**Слуханне і выхад з класа** пад песню «Беларусы мы» (у выкананні арт-групы «Беларусы»).

# УРОК 9

## Тэма: *Музыка – мова душы*

*Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,*
*Распятаю буду маліцца душой …*
Я.Купала

**Мэта, задачы ўрока:**

– пазнаёміць з разнастайнасцю інтанацый роднага краю, са старажытнымі беларускімі калядамі;
– развіваць цікавасць да музыкі, кампаненты музычнага слыху;
– выхоўваць павагу да народных традыцый;
– дакрануцца да глыбінь чалавечай душы.

**Тып урока**: урок новых ведаў з элементамі гутаркі і музычнымі практыкаваннямі.

**Музычны матэрыял:**

– «Нова радасць». Беларускі кант.
– «Малітва». Словы Я.Купалы, музыка А.Моўчана.
– «Ціхая ноч». Музыка Ф.Грубера.
– «Неба і зямля». Беларускі кант.
– «Песнапенні Еўфрасінні Полацкай».

**Абсталяванне ўрока:**
– таблічкі з тэмай урока, эпіграфам;
– рэпрадукцыя А.Кузьміча «Еўфрасіння Полацкая»;
– нотныя табліцы песень: «Нова радасць», «Неба і зямля», «Ціхая ноч»;
– фоназапіс твораў: «Малітва», «Песнапенні Еўфрасінні Полацкай», «Ціхая ноч», «Неба і зямля», «Нова радасць»;
– верш Л.Кебіч «Зорка Еўфрасінні Полацкай».

## *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**

Уваход у клас пад песню «Малітва» у выкананні У.Мулявіна. Называецца тэма ўрока, эпіграф.

– Як вы разумееце тэму ўрока? Чаму мы звяртаемся да душы? (Слухаю адказы).

– Гэта мова самай патаемнай, скрытай, запаветнай сутнасці чалавека, якая дадзена яму Богам. Малітва выражае яго лепшыя парывы, імкненні, намеры. Душа фарміруе і песню. Песня можа «ўзяць у рукі» і асобнага чалавека, і ўвесь народ.

«Душы разгуканай мелодыя» можа прывесці нас у далёкае XII стагоддзе, калі жыла першая асветніца Беларусі Еўфрасіння Полацкая («Яко луча солнечная»).

Паказваецца рэпрадукцыя А.Кузьміча і чытаецца верш Гродзенскай паэткі Людмілы Кебіч (на фоне ціхага гучання «Песнапенняў Еўфрасінні Полацкай» ці (калі іх няма) – канта «Нова радасць»).

**Зорка Еўфрасінні Полацкай**

Прадыслава, у мамы і таткі
Ты расла незвычайным дзіцяткам.
Рана ўмела чытаць і пісаць,
І аб з'явах жыцця меркаваць.

З усіх княстваў з'язджаліся госці
Падзівіцца тваёй прыгажосці.
Бралі замуж, да ўсім адказала.
Сваю долю свядома абрала.

Ой, як цяжка бацькоў не паслухаць!
Трэба быць вельмі моцнаю духам,
Каб у век свой валошкавы, сіні
Стаць манашкаю Еўфрасінняй.

Каб з высокай сваёй «галубніцы»
За народ беларускі маліцца.
Ці на родную мову да рання
Перапісваць святое Пісанне.

Кнігі маюць вялікую сілу,
Ты жыццё ім свае прысвяціла.
Да святла ты праклала дарогу,
Прысвяціўшы сябе толькі Богу.

Палачанка, Князёўна, Багіня!
Час твой подзьвіг у бездань не зрыне –
Адраджэння парой залатою
У народзе ты станеш Святою.

Шмат вятроў над зямлёй праняслося.
Зноў шуміць маладое калоссе,
І над ім з паднябесных вышыняў
Ззяе Зорка твая, Еўфрассіння.

**Слуханне. Развучванне беларускага канта «Нова радасць».**

– Паслухайце песню. Які ў яе характар, настрой? Ці чулі вы яе раней? Калі? (Настаўнік выконвае песню (падручнік: «Музыка 6 клас»). Вучні апавядаюць пра свае ўражанні. Настаўнік дапаўняе адказы).

– Масавай з’явай у музычным побыце беларусаў становіцца кант (ад лацінскага cantus – спевы, песня) – свецкая бытавая харавая песня-гімн. Першыя нотадрукаваныя зборнікі кантаў (канцыяналы) з’явіліся на Беларусі ў сярэдзіне XVI стагоддзя. Па зместу канты вельмі разнастайныя: філасофскія, лірычныя, павучальныя, жартоўныя. Значнае месца займаюць псалмы-калядкі. Іх асноўны змест – нараджэнне Ісуса Хрыста. Яны вытрыманы ў святочна-гімнічным характары. Мелодыі шчырыя, песенныя, сардэчныя, непасрэдныя. Кант «Нова радасць» і з’яўляецца такім псалмам-калядкай пра нараджэнне Ісуса Хрыста. Паглядзіце на нотную табліцу «Нова радасць» (аднагалосы варыянт).

Называем ноты з рытмічным адпляскваннем. Настаўнік паказвае мелодыю (сальфеджыа). Звяртае ўвагу на распеўныя склады. Просіць паўтарыць асобных вучняў, потым па радах і – усім класам. Трэба дабіцца мяккага, напеўнага гучання. Выконваем у характары. Падводзім вынік.

**Слуханне. Развучванне песні «Ціхая ноч».**

– Што вы ведаеце пра Каляды? Ці святкуюць іх у вашай сям’і? Як? (Слухаю адказы. Дапаўняю.)

– Адным з самых старажытных зімовых святаў з’яўляюцца Каляды. Паходжанне гэтай назвы вучоныя тлумачаць па-рознаму. Найбольш верагодна яе лацінская аснова: словам «Calendae» («календы») у старажытнасці называлі першы дзень кожнага месяца. У гэтыя дні выконваліся абрады з мэтай дасягнення дабрабыту. А песні, што выконваліся ў гэты час, называлі калядкамі. Іх пачынаюць спяваць напярэдадні Раджджаства Хрыстова, калі праводзіцца вячэра, якая па назве галоўнай стравы – крутой кашы з неразмолатага зерня – называецца куццёю. Вельмі яскрава, паэтычна абрысоўвае рыхтаванне да свята выдатны беларускі паэт Я.Колас у паэме «Новая зямля».

Чытаецца ўрывак з паэмы, які называецца «Каляды»:

…Куцця. Марозна. Хмурнавата.
Сняжок падкідвае заўзята;
Снег на куццю – грыбы на лета,
Такая матчына прымета,
А сцежкі чорны – ягад многа;
Ну, і за гэта хвала Богу.
…І дроў на свята накалолі,
Трасянкі загадзя натрэслі,
Сянца пахучага прынеслі:
Куцці гаршчок ужо калена
Стаяў на лаве, чакаў сена,
І вось цяпер гаршчок з куццею,
Як цар даўнейшаю парою,
Ў пачэсны кут, на свой прастол,
Стаўляўся з гонарам на стол,
Ўладар над хлебам і блінамі,
Бо ён у гэты дзень – персона!
Яго вянчаў абрус-карона:
Гаршчок агорнуты пашанай,
Хоць ён фаміліі глінянай.
Якія ж матчыны намеры
Наконт куцці, наконт вячэры?
Ох, гэта дзецям знаць цікава,
Калі якая будзе страва,
Ў якім ліку, ў якім парадку?
Што на канцы і што ўпачатку?
А ў маткі ўсе абмеркавана
І ўсе прадумана ад рана.
Там, на гары, пад шчытам дзе-та,
Быў мак павешан яшчэ з лета –
Цяпер у церле ён пацерты.
У патайным куце каморы,
Як смерць Кашчэя, пад запоры
Мядок быў хітра дзесь заперты, -
Цяпер яго насталі часы,
Бо ён патрэбен для закрасы,
І што кісель той без сыты
У вечарок гэты святы?

Давайце паслухаем калядную песню «Ціхая ноч». Сачыце за нотным запісам. Які характар песні? Які яна стварае настрой? (Слухаем. Высвятляем ўражанні. Слухаем яшчэ раз і падпяваем).

Павольна

1. Ці - ха - я ноч, свя - та - я ноч, ўсё спіць, спіць даў - но.

Толь - кі ма - ці свя - та - я ўсцяж ці - ха ў яс - лях лю - ля - е дзі - ця:

Спі, сы - но - чак ма - лы, лю - лі, лю - лі, спі.

**Слуханне. Развучванне песні «Неба і зямля».**

– Звярніце ўвагу на калядную песню «Неба і зямля». (Выконваецца песня).

Аўжылена

1. Не - ба і зям - ля, Не - ба і зям - ля ра - дас__ на спя - ва - юць,

ан - ге - лы све - ту, ан - ге - лы све - ту дзі - ва__ аб - вя - шча - юць.

*Прыпеў:*

Хры - стос на - ра - дзіў - ся, Бог аб' - я - віў - ся ан - ге - лы спя - ва - юць

па - сту - кі і - гра - юць дзі - ва, дзі - ва аб - вя - шча - юць.

2. У Батлееме, у Батлееме
Вясела навіна:
Чыстая Дзева, Чыстая Дзева
Нарадзіла Сына.

*Прыпеў:*
Хрыстос нарадзіўся,
Бог аб'явіўся.
Ангелы спяваюць, пастушкі іграюць,
Дзіва, дзіва абвяшчаюць.

3. І мы Дзіцятку, і мы Дзіцятку
Богу паклон дайма,
Слава на Ўзвышніх, слава на Ўзвышніх –
Яму заспявайма.

– За кошт чаго змяніўся тут характар? Прааналізуйце сродкі музычнай выразнасці: тэмп, лад, рытм. Параўнайце з песнямі «Нова радасць», «Ціхая ноч».

Развучваем з дапамогай нот. Удакладняем гучанне (кварта – уніз – уверх, потым паступовая лесвічка ў ажыўленным тэмпе). Дабіваемся, каб не выдзяляўся заключны сінкапіраваны гук («спява-юць», «абвяшча-юць»). Надаем гуку светлы, «сонечны» характар.

Настаўнік просіць вучняў саміх падвесці вынік спяванню. Дадае, што са святам Каляды звязаны ў народзе дзействы, гульні, якія называюцца калядаваннямі або шчадраваннямі. І дарослыя, і дзеці хадзілі з хаты ў хату, віншавалі гаспадароў, зычылі ім даўгалецця. За гэта гаспадары частавалі калядоўшчыкаў пірагамі, каўбасамі, цукеркамі.

**Абагульненне тэмы ўрока.**
– Назавіце тэму і эпіграф ўрока. Як вы іх разумееце?
– Што абазначае слова кант? У якім стагоддзі ўзніклі беларускія канты?
– Якая сувязь кантаў з беларускімі народнымі песнямі?
– З чым звязаны калядныя песні?

**Выхад з класа** пад песню «Малітва».

# УРОК 10
## Тэма: *Душы разгуканай мелодыя*

*…Забыты скарб вяртаецца народу.*
*Тут болей сэрцу, як вачам, відно.*
*Ні пыл вякоў, ні час*
*Не перашкода,*
*Калі нашчадак з продкам заадно.*
Л.Геніюш

**Мэта, задачы ўрока:**
– даць уяўленне аб «Полацкім сшытку», некаторых здабытках мінулага і сучаснага;
– развіваць выканальніцкія здольнасці і творчы інтарэс вучняў;
– выхоўваць цікавасць да музычнай скарбонкі беларусаў.

**Тып урока:** камбінаваны.

**Музычны матэрыял:**
– «Магутны Божа». Словы Н.Арсеннявай, музыка М.Равенскага.
– «Многая лета». Запіс А.Шыдлоўскага.
– «Нова радасць». Беларускі кант.
– «Неба і зямля». Беларускі кант.
– «Лаза». Словы І.Кахоўскай, музыка У.Казбанава.
– «Танец» з «Полацкага сшытка» (па выбару).

**Абсталяванне ўрока:**
– таблічкі з тэмай урока, эпіграфам;
– нотныя табліцы песень: «Лаза», «Нова радасць», «Неба і зямля»;
– фоназапіс твораў: «Лаза», «Неба і зямля», «Нова радасць», «Магутны Божа», «Многая лета», «Танец» з «Полацкага сшытка» (па выбару).

## *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**

Уваход у клас пад песню «Магутны Божа». Даслухоўваем песню да канца.

1 Ма - гут - ны Бо - - - - жа! Ўла - дар сус - вс - таў! Вя - лі - кіх сон - цаў і сэрц ма - лых. Над Бе - ла - ру - - - - сяй, ці - хай і свет - - - - лай, рас - сып пра - мен - - - - ні сва - е хва - лы.

2. Дай спор у працы штодзённай, шэрай
На лусту хлеба, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласць – дай!

3. Дай урадлівасці жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі магутнай, зрабі шчаслівай
Краіну нашу і наш народ!

– Ці чулі вы гэты твор? (…). Кожны год у Беларусі праходзіць фестываль духоўнай музыкі пад дэвізам гэтай песні, дзе, вядома, яна з'яўляецца галоўнай. Яе стварылі беларуская паэтка Наталля Арсеннява і ўжо вядомы вам кампазітар Мікола

Равенскі. Звярніце ўвагу на тэму і эпіграф урока. Аўтар эпіграфа – беларуская паэтка з Зельвы Ларыса Геніюш, а тэма ўрока запазычана ў беларускага паэта, аўтара тэксту гімна Беларусі Уладзіміра Карызны. Менавіта так названа адна з яго кніг «Душы разгуканай мелодыя».

– Як вы разумееце тэму ўрока? (І кампазітар, і паэт ствараюць свае творы, калі тэма глыбока закранае іх душу, разгукае яе. Вось тады і ствараюцца шэдэўры, якія жывуць вякамі).

**Слуханне. Развучванне песні «Лаза».**

– Сёння мы з вамі паслухаем і пачнем развучваць песню Уладзіміра Казбанава на словы Ірыны Кахоўскай «Лаза». Паслухайце і адкажыце аб чым і як пяецца? Якая тут мелодыя?

Гос - подь ло - зу бла - го - сло - вил, как Аль - фу и О - ме - гу Ве - ры. Мы –
гро - здья но - вы - е тво - и. Сын Бо - жий стал для нас при - ме - ром. Мы –
Бо - жьи де - ти Ви - но - град. Хри - стос Ло - за наш ви - но - гра - дарь. При -
ум - но - жай - ся, Див - ный сад. И - ной на - гра - ды нам не - на - до. Ло -
за, Ло - за. Не бес - пый свет в мо - и гла - за. Ло -
за, Ло - за. Не бес - пый свет в тво - и гла - за.
А а... Ло - за, Ло -
за. Не бес - ный свет в мо - и гла - за. Ло - за, Ло -
за. Не бес - ный свет в тво - и гла - за.

1. Господь Лозу благословил,
Как Альфу и Омегу Веры.
Мы грозди новые Твои.
Сын Божий стал для нас примером.

2. Мы – Божьи дети – Виноград.
Христос – Лоза – наш Виноградарь.
Приумножайся, Дивный Сад.
Иной награды нам не надо!

Припев: Лоза… Лоза…
Небесный свет в мои глаза.
Лоза… Лоза…
Небесный свет в твои глаза.

3. Господь, не оставляй Свой Сад!
Мы без Тебя – сухие плети…
Мы все Твои – Христовы дети,
Благослови Свой Виноград!

Припев.

Песню выконвае дзіцячы ансамбль з Мінска «Тимпан». (Цімпан – старажытны ўдарны інструмент). «Тимпан» выконвае шмат песень У.Казбанава, дзе кампазітар з'яўляецца кіраўніком гэтага дзіцячага ансамбля.

– Паглядзіце на нотную табліцу. Чытаем ноты. Звярніце ўвагу на першыя інтэрвалы. Настаўнік паказвае, як яны гучаць. Пяем разам і пачаргова. Фіксуецца ўвага на 2-й фразе (пачатак, інтэрвал квінта, сэкста і інш.). У другім сказе паказваецца і паўтараецца распеўны склад: «тво…». Ён павінен гучаць мякка, непрыкметна. У прыпеве магчымы цяжкасці ў дакладнасці выканання ўзыходзячых кварты, квінты. Паказаць голасам, на інструменце, у выкананні некаторых дзяцей. У цэлым мелодыя гучыць мякка, плаўна, задушэўна. Звярнуць увагу на словы «Как Альфу и Омегу Веры». Як дзеці разумеюць? Можна растлумачыць: альфа – назва першай буквы грэчаскага алфавіта. Альфа і амега – самае галоўнае ў чым-небудзь, аснова, сутнасць… . Песня мае філасофскі сэнс, бо жыццё чалавека залежыць ад Бога, ад Яго Законаў. Калі яны не выконваюцца, тады «Мы без Тебя – сухие плети…»

Ваконваем песню ў характары. Падводзім вынік.

**Выкананне песні «Нова радасць».**

– Назавіце песню, раскажыце аб ёй. (Паказваецца інструментальны варыянт). Параўнайце «Нову радасць» з «Лазой». (Абедзьве песні лірычныя, задушэўныя,

блізкія па зместу. У песні «Лаза» прыпеў гучыць больш цвёрда, у мажоры. Запеў – мякка, у мінорны. Лад песні пераменны. Паказваецца, што ў мелодыі няма-ла «валявых» скачкоў угору (да «сонейка»). «Нова радасць» гучыць у мінорны з плаўнымі, паступовымі інтанацыямі.

Настаўнік напамінае мелодыю «Нова радасць». Паўтараем першы куплет. Асэнсоўваем змест наступных куплетаў. Трэба паказаць гучанне кожнага. Прадумваем выканальніцкі план. Можна другі куплет спяваць цішэй і больш рухава. Пяты куплет – як малітву. Выконваем усю песню, падводзім вынік. Адзнакі …

**Выкананне песні «Неба і зямля».**

**Слуханне: «Танец» з «Полацкага сшытка» (па выбару настаўніка).**

– Полацкі сшытак – гэта рукапісны зборнік старадаўняй беларускай музыкі XVI – XVII стагоддзяў – яркі ўзор свецкай кантавай культуры. «Полацкі сшытак» уклю-чае больш за 60 вакальных і інструментальных твораў з выразнымі стылявымі рысамі барока. Сярод іх шматгалосыя канты і псалмы, фрагменты царкоўнай музыкі з лічбаваным басам (для выканання на аргане). Інтанацыйны строй ме-лодый «Полацкага сшытка» грунтуецца на славянскім народна-песенным мела-се і тыповых кантавых папеўках. Сустракаюцца напевы з рознымі паэтычнымі тэкстамі, напісанымі на лацінскай, старaславянскай і старабеларускай мовах.

Як сведчаць даследчыкі, у другой палове XVI і першай палове XVII стагоддзя інструментальную музыку выконвалі скрыпкі, лютні, флейты, карнеты, пузо-ны, трубы, барабаны. Самым папулярным інструментам у дамах шляхты быў клавікорд. Потым узнік клавесін (яго называлі яшчэ: клавіцымбал, чэмбала, вірджынал). Струны ў клавесіна былі рознай даўжыні і гук на ім атрымліваўся шчыпком. Гэтыя інструменты пастаянна ўдасканальваліся.

– Паслухайце твор. Які тут настрой, характар? Што вы ўяўляеце пад гэту музыку? Якія вы пачулі інструменты?

**Абагульненне тэмы ўрока.**

– Давайце ўспомнім тэму і эпіграф урока.

– Чаму музыка другіх стагоддзяў зразумела нам, людзям XXI стагоддзя?

Настаўнік слухае адказы. Дапаўняе: «Гэта музыка нясе людзям мір, дабрыню, робіць душы людзей лагоднымі, шчырымі, бо яна створана з любоўю і дзеля любві да чалавека».

**Слуханне песні «Многае лета».**

– Гэтая песня выконваецца ва ўрачыстыя моманты нашага жыцця. Тэкст песні паўтараецца тры разы. Яе запісаў беларускі самадзейны кампазітар з Грод-на Аляксандр Шыдлоўскі. Паслухайце. (Глядзі падручнік «Музыка 6 клас»). Падпявайце.

**Выхад з класа** пад песню «Многае лета».

# УРОК 11

## Тэма: *Жыццёвыя дарогі некаторых беларускіх опер*

*Бацькоў не цурайся, а ад Радзімы не адракайся.*
Беларуская прымаўка

**Мэта, задачы ўрока:**
– замацаваць веды аб оперы як музычным спектаклі;
– пазнаёміць з жыццёвым зместам, музычнымі асаблівасцямі і вобразамі некаторых беларускіх опер;
– развіваць музычныя здольнасці дзяцей: спяванне на легата, усе кампаненты музычнага слыху;
– выхоўваць цікавасць да беларускай гісторыі, пазнавальны інтарэс, эстэтычны густ.

**Тып урока:** урок новых ведаў з элементамі гутаркі.

**Музычны матэрыял:**
– А.Багатыроў. «Арыя Надзеі Дуравай» з оперы «Надзея Дурава».
– Р.Пукст. «Хор русалак» з оперы «Машэка».
– «Юрачка». Беларуская народная песня.
– Р.Пукст. «Піянерская полька» з оперы «Марынка».
– Песня па выбару (паўтарэнне).

**Абсталяванне ўрока:**
– таблічкі з тэмай урока, эпіграфам;
– партрэты кампазітараў: Р.Пукста, А.Багатырова;
– фоназапіс твораў: Арыя Надзеі Дуравай, Хор русалак, «Піянерская полька», фінал 3 дзеі з оперы «Марынка»;
– нотныя табліцы песень: «Юрачка», Хора русалак (фрагмент), песні па выбару.

### *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**
Уваход у клас пад музыку Арыі Надзеі Дуравай з оперы А. Багатырова «Надзея Дурава». (Глядзі падручнік «Музыка 7 клас ». – Мінск: Беларусь, 2000. – С. 24).

Как я люблю лететь стрелой
Наперегонки с ветром шалым
То средь лугов, то над рекой,
То по лесным тропинкам малым.

И дышит грудь ещё вольней,
И жаворонка звонче пенье,
И от дубрав, и от полей
Несётся аромат цветенья.

Летишь и знаешь: гордый конь
Тебе одной во всём послушен.
Прикажешь – полетит в огонь
Навстречу ядрам вражьих пушек.

О, если бы моей судьбой
Был дан мне жребий величавый,
Хоть раз пойти в горячий бой,
Добыть себе военной славы.

– Якія пачуцці і думкі выклікае ў вас гэта музыка? Аб чым тут расказваецца? Які вобраз вы ўявілі? Ці ведаеце вы, што беларускі кампазітар Анатоль Васільевіч Багатыроў напісаў оперу «Надзея Дурава,» дзе цэнтральным вобразам з'яўляецца гістарычны персанаж – «кавалерыст-дзяўчына» Надзея Дурава, якая пад выглядам афіцэра Аляксандрава была ад'ютантам фельдмаршала Кутузава.

Жыццё Надзеі Дуравай падобнае на міф. Нарадзілася яна ў 1783 г. у сям'і небагатага двараніна Андрэя Дурава, які вёў свой радавод ад беларускага шляхецкага роду Тураўскіх.

Продкі перасяліліся ў Расію ў XVII стагоддзі. Пазней змянілі свае прозвішча на «больш рускае» – Туравы, якое з цягам часу трансфармавалася ў Дуравы.

Бацька Надзеі быў рускім афіцэрам. Падчас вандроўнага ваеннага жыцця ў маладой сям'і нарадзілася першае дзіця – дачка Надзея. Калі ёй было васемнаццаць, выйшла замуж за чыноўніка В.Чарнова, праз год, у 1802, нарадзіла сына Івана. А ў 1806 г. употайкі, ноччу, пераапрануўшыся ў мужчынскае адзенне, збегла з дому, каб распачаць новае жыццё – ужо пад мужчынскімі імёнамі. Спачатку як Аляксандр Дураў, дзяншчык, потым як Аляксандр Сакалоў – улан польскага палка, што фарміраваўся ў Гродне, і нарэшце як Аляксандр Андрэевіч Аляксандраў – удзельнік вайны 1812 г., кавалер Георгіеўскага крыжа, потым ветэран у адстаўцы.

Ёй прысвечаны вершы, паэмы, п'есы. Рэжысер Эльдар Разанаў стварыў фільм «Гусарская балада» на аснове п'есы П.Гладкова «Даўным – даўно», музыку да якога напісаў Ц.Хрэннікаў. У 1979 г. Хрэннікаў напісаў балет «Гусарская балада».

Прататып гераіні балета – менавіта Надзея Дурава. Яна была ўдзельнікам еўрапейскіх антынапалеонаўскіх кампаній 1806 – 1807 гг., вайны 1812 г., служыла некаторы час ардынарцам М.Кутузава, брала ўдзел у ваенных дзеяннях на тэрыторыі Беларусі, у Барадзінскай бітве, у замежным паходзе 1813 г. Памерла Н.Дурава ва ўзросце 83 гадоў.

Звярнуць увагу дзяцей, што музыка па-юнацку імклівая, у ёй адчуваецца прага да жыцця, рашучасць, любоў да Радзімы. Назваць кампазітара, паказаць партрэт. Патрэбна ўспомніць, што такое опера, арыя, якія оперы ведаюць навучэнцы, як разумеюць эпіграф урока.

**Слуханне «Хора русалак» з оперы «Машэка».**

– Сёння мы накіруемся яшчэ да адной беларускай оперы «Машэка», якую напісаў беларускі кампазітар Рыгор Канстанцінавіч Пукст на аснове п'есы Міровіча і паэмы Я.Купалы «Магіла льва».

…Няхай той час, што згінуць мусіў  
У беспрасветнай векаў мгле,  
Для беспрыпыннай Беларусі  
Хоць толькі ў песні ажыве…

Гэта пра асілка Машэку і яго трагічны лес.

«…Яго высокую магілу –
Дзе лес ды вецер панаваў –
Знаць, што вялікую меў сілу,
«Магілай льва» народ назваў.

Над ёю з часам дрэвы палі,
І горад вырас, як з зямлі,
Яго Магілевам назвалі,
Бо йнакш прыдумаць не маглі…»

– Сёння мы з вамі пазнаёмімся з «Хорам русалак». Паслухайце, адкажыце які характар, настрой? Чым музыка падобна да беларускіх народных песень?

Бе - ла - я ў во - зе - ры ле - бедзь, бе - ла - я ў рэч - цы лі - ле - я.

На - ша Га - нуль - ка бя - лей - ша, сне - жнай кра - со - ю бя - ле - е.

(Задуменная, напеўная (з распеўнымі складамі), але светлая, празрыстая. Мае вялікую духоўную сілу. Выкарыстоўваецца паэтычны паралелізм: параўноўваецца прыгажосць дзяўчыны з лілеяй, лябёдкай). Вучні спяваюць разам з настаўнікам, сочаць за рухам мелодыі на нотнай табліцы.

**Развучванне песні «Юрачка».**

– Якую знаёмую мелодыю вы тут пачулі? (Выкананне настаўнікам інструментальнага варыянта песні «Юрачка», ці лепш слуханне фрагмента Фінала 3-й дзеі з оперы «Марынка» Р.Пукста).

Гэта мелодыя знаёмай вам беларускай народнай песні «Юрачка» на тэкст Я.Купалы.

Ой ты, Ю - рач - ка, што не ву - чыш - ся? Так да не - ву -
вы - рас - цеш ты няў - ме - ка - ю, У - се зы - сме -

каў ты да - лу - чыш - ся. А як А ў на - ша - га Ю - рач - кі з'е - лі
юць не - да - рэ - ка - - - - ю. - - - ша - га Ю - рач - кі у кап -

са - ла шчу-рач - кі, Як па - бег ён у ля - сок, каб сха - вац-ца ад кні - жок. А ў на
та - не дзю-рач - кі, На - ра - біў ён іх са - бе, як стаў ла - зіць па вяр - - - - бе.

2. Ой ты, Юрачка, кінь ляніціся,
Ды надумайся ты вучыціся.
Будзем цешыцца, што ты вучышся,
І да невукаў не далучышся.

А нашаму Юрачку кот зрабіў пячурачку, –
Юрка месца там заняў і з катком – курняў, курняў!
А нашаму Юрачку ткнуў камар у скурачку,
А Юрачка – ай-яй-яй! Камарочак, не кусай!

Настаўнік паказвае ўсю песню. Дзеці вызначаюць яе жартоўны характар. Звяртаецца ўвага на інтанацыю першага сказа (мажорнае трохгучча) і другога. У аснове апошняга ляжыць вялікая тэрцыя і малая секунда, якія могуць ствараць некаторую інтанацыйную інертнасць. Ствараем выканальніцкі план. Выконваем.

– Гэтая песня прывяла нас ва ўжо знаёмую вам оперу «Марынка». (Успамінаем змест). Кампазітар у гэтай оперы выкарыстаў дзве беларускія народныя песні: «Юрачка» і «Саўка ды Грышка».

**Выкананне песні па выбару.**

Паўтарэнне. Удакладненне мелодыі. Складанне выканальніцкага плана.

**Падвядзенне вынікаў. Абагульненне тэмы ўрока.**

Вынікі спеваў, вусных адказаў.

– Якія оперы сустрэліся вам на ўроку? Назавіце кампазітараў і аўтараў літаратурных вытокаў.

– Чаму эпіграфам урока з'яўляецца беларуская прымаўка: «Бацькоў не цурайся, а ад Радзімы не адракайся?»

– Якія суадносіны паміж словамі Я.Коласа і зместам урока: «Край мой родны! Дзе ў свеце край другі такі знайсці, дзе б магла так, поруч з смеццем, гожасць пышная ўзрасці?»

**Хатняе заданне.**

– Было б вельмі добра, калі б нехта з вас за тыдзень прачытаў твор Я.Купалы «Магіла льва», ці нехта прачытаў паэму Э.Агняцвет «Песня пра піянерскі флаг» (аснова оперы «Марынка»), ці нехта схадзіў у краязнаўчы музей і больш падрабязна даведаўся пра Надзею Дураву.

**Выхад з класа** пад «Піянерскую польку» з оперы «Марынка».

# УРОК 12

## Тэма: *Ніколі не спыняйся на паўдарозе, калі ідзеш у Краіну музычнай культуры*

*Нет на земле живого существа,*
*Столь жёсткого, крутого, адски злого,*
*Чтоб не могла хотя на час один*
*В нём музыка свершить переворота….*
У. Шекспир

**Мэта, задачы ўрока:**
– агарнуць, зацікавіць фрагментамі з опернай музыкі. Паглыбіць веды аб оперы як сінтэтычным мастацтве;
– развіваць музычныя здольнасці дзяцей;
– выхоўваць душэўныя пачуцці.

**Тып урока:** урок – роздум.

**Музычны матэрыял:**
– А.Багатыроў. «Арыя Надзеі Дуравай» з оперы «Надзея Дурава».
– Р.Пукст. «Хор русалак» з оперы «Машэка».
– «Юрачка». Беларуская народная песня.
– У.Солтан. «Паляванне» з оперы «Дзікае паляванне караля Стаха».
– Песня па выбару.

**Абсталяванне ўрока:**
– таблічкі з тэмай урока, эпіграфам;
– партрэты кампазітараў: Р.Пукста, А.Багатырова, У.Солтана;
– фоназапіс твораў: Арыя Надзеі Дуравай, «Хор русалак», Фінал 3-й дзеі з оперы «Марынка», «Паляванне»;
– нотныя табліцы песень: «Юрачка», «Хора русалак», Арыі Надзеі Дуравай, песень па выбару.

## *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**
Уваход у клас пад музыку Арыі Надзеі Дуравай. Настаўнік садзіць вучняў на месцы, моўчкі даслухоўваем музыку.
– Якія рысы характару Надзеі Дуравай перадае музыка?
– Хто з вас праявіў ініцыятыву і прачытаў прапанаваныя літаратурныя творы ці наведаў музей? Гутарка.Чаму? … Як? … Якое ўражанне атрымалі? (Ацэнка адказаў).
– Якая сувязь оперы з літаратурай?
– Хто з вас бачыў оперу на сцэне ці па тэлебачанню, відэа? Якія ўражанні?
Што яшчэ ўваходзіць у оперу? (сцэнічныя дзеі, танец, жывапіснае мастацтва). Якая роль адводзіцца дырыжору, аркестру, хору? Чаму арыя з’яўляецца галоўным фрагментам оперы?

**Выкананне «Хора русалак».**

– Паглядзіце на нотную табліцу. Называем ноты ў рытме. Спяваем з назвай нотаў. Чым адрозніваецца першая фраза ад другой? (Мелодыя пачынаецца аднолькава, але ў другім такце імкнецца ўгору. Прасвятляецца, узвышаецца, развіваецца. Нібы даецца прастор пачуццям, прыгажосці). Давайце пакажам пластычнымі рухамі ўвесь малюнак мелодыі. (Спяваюць з дапамогай настаўніка і вызначаюць вяршынькі ў фразах). Паслухайце ўвесь хор. Як развіваецца мелодыя? (Нібы свет і цені – змяняюцца танальнасці, ёсць паўторы; другія куплеты, кожны з якіх складаецца з 2-х частак). Падводзім вынік.

**Выкананне песні «Юрачка».**

– У якой оперы гучыць гэта песня? (Паказваецца мелодыя).

Слухаем фінал 3-й дзеі з оперы «Марынка» Р.Пуксці.

– Як змяняецца, развіваецца тут мелодыя песні? Што выражае і адлюстроўвае? (Пяем песню па складзенаму разам з вучнямі выканальніцкаму плану; можна выкарыстаць салістаў у 2-м і 4-м куплетах; пластычныя рухі карагода ў 1-м, 3-м куплетах; падскокі, адпляскванне і інш.). Выкананне песні ў «канцэртным» варыянце.

**Слуханне: «Паляванне» з оперы «Дзікае паляванне караля Стаха».**

– Сёння мы завітаем яшчэ ў адну беларускую оперу, якую напісаў У.Солтан (паказваю партрэт). Называецца яна «Дзікае паляванне караля Стаха». Опера напісана паводле рамана беларускага пісьменніка У.Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» (1988 г.). Яе асноўны сэнс заключаецца на паказе трагічнай барацьбы супраць цемры і зла, увасобленых праз «дзікае паляванне».

– Давайце паслухаем фрагмент з оперы, які называецца «Паляванне». Што тут музыка адлюстроўвае? Якія пачуцці выклікае? (Несупынны дзікі рух, які знішчае ўсё на сваім шляху).

Калі ёсць магчымасць, глядзім відэазапіс.

*«…І раптам забегалі недзе ззаду сінія балотныя агні, і даляцелі з таго боку спеў рагоў і ледзь чутны стук капытаў. А пасля з'явіліся цьмяныя цені коннікаў. Грывы коней веялі па ветры, беглі перад дзікім паляваннем гепарды, спушчаныя са шворак. І бязгучна па верасе і дрыгве ляцелі яны. І маўчалі коннікі, а гукі палявання далятаі аднекуль з другога боку. І перад усімі скакаў, асветлены месяцам, туманны і вялізны кароль Стах. І гарэлі вочы і коней, і людзей, і гепардаў».*

*Ул. Караткевіч: з аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха».*

**Выкананне песні па выбару.**

Паўтарэнне. Складанне выканальніцкага плана. Выкананне. Вынік.

**Абагульненне тэмы ўрока.**

– Рабяты, як вы разумееце эпіграф і тэму ўрока? (Чытаем).

– На кожнага чалавека ўздзейнічае музыка. Даказана, што музыка можа лячыць, суцяшаць, уздымаць настрой і г.д. Гэта значыць, што ў музыцы закладзена вялізная духоўная сіла. Яе трэба ведаць, адчуваць, шанаваць.

«О, будь же нашим
хранителем
спасителем
музыка!
Не оставляй нас!..»
*М.Гогаль*

**Выхад з класа** пад музыку «Хора русалак».



Малюнак 1 – Тэрпсіхора танцуе

# УРОК 13
## Тэма: *На хвалях музыкі балета*

*Дабрыня, шчырасць, чыстасардэчнасць у музыцы.*

**Мэта, задачы ўрока:**
– замацаваць веды навучэнцаў аб балеце як буйным музычным жанры;
– развіваць музычнае мышленне дзяцей, іх музычныя здольнасці;
– выхоўваць эстэтычны густ, духоўную аснову.

**Тып урока:** урок паглыблення і развіцця тэмы (урок-роздум).

**Музычны матэрыял:**
– Я.Глебаў. «Адажыа» з балета «Маленькі прынц».
– Папеўка (на аснове інтанацыі «Адажыа»).
– «Прынц і Ружа». Словы Л.Дранько-Майсюка, музыка М.Сацуры.
– «Лаза». Словы І.Кахоўскай, музыка У.Казбанава.

**Абсталяванне ўрока:**
– таблічкі з тэмай урока, эпіграфам;
– партрэт кампазітара Я.Глебава;
– фоназапіс твораў: «Адажыа» з балета Я.Глебева «Маленькі прынц», «Лаза», «Прынц і Ружа»;
– нотныя табліцы песень: «Прынц і Ружа», папеўка, «Лаза»;
– малюнкі: «Тэрпсіхора танцуе» (мал. 1) і «Тэрпсіхора з лірай» (мал. 2);
– ілюстрацыі з аповесці «Маленькі прынц».

### *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**
Уваход у клас пад музыку Я.Глебава «Адажыа» з балета «Маленькі прынц».
Называю тэму ўрока, эпіграф. Звяртаю ўвагу на нотную табліцу:




Чытаем ноты ў рытме, адплясткваем. Настаўнік паказвае мелодыю з называннем нот, можна і са словамі. Дабіваецца акуратнага выпявання працягласцяў і вышыні.
– Ці ведаеце вы гэту мелодыю? Яна прывядзе нас у балет, які напісаў беларускі кампазітар Яўген Глебаў на аснове літаратурнага твора (казкі) французскага пісьменніка Антуана дэ Сент-Экзюпеapprox «Маленькі прынц». Хто з вас чытаў гэту казку ці глядзеў

фільм? Якія пачуцці выклікае казка? Аб чым яна? (Паказана дабрыня і шчырасць у чалавечых пачуццях і адносінах). Вы слухалі «Адажыа» з балета «Маленькі прынц». Адажыа – павольны, лірычны танец галоўных герояў. Давайце паслухаем «Адажыа» яшчэ раз і пастараемся перадаць свае пачуцці рухамі рук, тулава. (Вынік …).

– А цяпер адкажыце, што такое балет? Ці можа быць танец бессюжэтны, бессэнсоўны? Дакажыце. (Танец і тэатр – гэта натуральна!). Якая сувязь балета з літаратурай? Прывядзіце прыклады. Ахарактыразуйце Маленькага прынца (…). Паглядзіце на два малюнкі. Гэта Тэрпсіхора – муза танцаў. Яна з'явілася яшчэ ў старажытнай Грэцыі (больш, чым 2000 гадоў таму назад). На першым малюнку – Тэрпсіхора, якая танцуе. На другім малюнку – яна з лірай (музычны інструмент).

**Развучванне песні «Прынц і Ружа».**

– Сёння мы пачнем развучваць песню «Прынц і Ружа», якую стварылі сучасныя аўтары: кампазітар Мікалай Сацура і паэт Леанід Дранько-Майсюк. Паслухайце яе. Якія пачуцці яна ў вас выклікае? Дзе вы яе маглі чуць раней? (Высвятляем ўражанні. Часта гучыць вечарам па радыё ў канцы перадачы «Добра ноч» для дзяцей).

1. Кінь ка - мень-чык у зор-ну - ю сцю-жу– Крышта - лё - вы па - чу - ец - ца

8 звон. Пра ма - лень - ка - га прын - ца і ру - жу На - га - да - е ад -

15 ра - зу нам ён. Ба - ю - бай, кры-шта - лё - вы - я кра - скі У - зы -

22 хо - дзяць у сі - няй жу - рбе. Ба - ю - бай, гэ - тай ве - чна - е каз - кі

29 Прынц і ру - жа пры - сняц - ца та - бе. 2. Ту - ю

2. Тую казку не раз мы чыталі
І здавалася нам кожны раз:
Прынц і Ружа для нас танцавалі
І спявалі таксама для нас.

Прыпеў: Баю-бай, крышталёвыя краскі
Узыходзяць у сіняй журбе.
Баю-бай, гэтай вечнае казкі
Прынц і Ружа прысняцца табе.
3. Не палохае доўгая сцюжа
І ніякай не бойся бяды:
Прынц маленькі і белая Ружа
Будуць побач з табою заўжды.
Прыпеў.

Развучваем песню з дапамогай нот па фразах. Звяртаецца ўвага дзяцей, што мелодыя плаўная, песенная, у характары лірычнага вальса. Чаму гэту песню ўзялі для дзіцячай перадачы? (Яна светлая і мяккая: мажорны лад і плаўны рытм вальса супакойваюць і зачароўваюць, робяць чалавека добрым, шчырым, чыстасардэчным.). Выконваем запеў і прыпеў. Вынік.

**Выкананне песні «Лаза».**

Успамінаем і паўтараем песню. Звяртаецца ўвага на вяршынькі ў фразах і дакладнасць выканання інтэрвалаў (сэкста, квінта і інш.). Працуем над «туманнымі» месцамі. Выконваем. Дабіваемся шчырасці, задушэўнасці ў выкананні. Вынік.

**Абагульненне тэмы ўрока.**

– Назавіце тэму і эпіграф урока. Як вы іх разумееце? (…). Давайце ўспомнім ідэю казкі: «Зорко одно лишь сердце. Самого главного глазами не увидишь». Успомніце фразу Ліса: «Твоя роза так дорога тебе потому, что ты отдал ей всю душу». Як музыка перадае гэты сэнс у балеце? (Гучыць спакойна, лірычна, узвышана). Прачытайце, калі ласка, яшчэ раз казку «Маленькі прынц».

**Выхад з класа** пад музыку «Адажыа».

# УРОК 14

## Тэма: *На хвалях музыкі балета (працяг)*

*Музыка – як чалавек!*

**Мэта, задачы ўрока:**

– вызначаць з вучнямі, што музыка выражае розны стан чалавечай душы, яго жыццё, што музыка – гэта жывая душа;
– развіваць музычныя здольнасці дзяцей (усе кампаненты музычнага слыху, пачуццёвасць);
– выхоўваць эстэтычны густ, дабрыню, шчырасць.

**Тып урока:** урок-роздум.

**Музычны матэрыял:**
– Я.Глебаў. «Адажыа» з балета «Маленькі прынц».
– Папеўка (на аснове інтанацыі Адажыа).
– «Прынц і Ружа». Словы Л.Дранько-Майсюка, музыка М.Сацуры.
– Я.Глебаў. «Уцёкі» з балета «Альпійская балада».

**Абсталяванне ўрока:**
– таблічкі з тэмай урока, эпіграфам;
– партрэт кампазітара Я.Глебава;
– фоназапіс твораў: «Адажыа» з балета Я.Глебава «Маленькі прынц», «Уцёкі» з балета «Альпійская балада»;
– нотныя табліцы песень: «Прынц і Ружа», папеўкі;
– малюнкі: «Тэрпсіхора з лірай», «Тэрпсіхора танцуе»;
– відэазапіс: «Уцёкі» з балета «Альпійская балада»;
– фрагмент з літаратурнага твора В.Быкава «Альпійская балада».

## *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**
Уваход у клас пад музыку «Адажыа» Я.Глебава (з балета «Маленькі прынц»). Назва тэмы ўрока, эпіграфа.
– Як вы разумееце эпіграф? (…). Магчыма, гэта занадта гучна? Пачуцці ў кожнага чалавека вельмі разнастайныя: радасць, смутак, гора, спакой, дабрыня, шчырасць, узнёсласць і г.д.

**Папеўка.**
– Паглядзіце на нотную табліцу. Давайце прачытаем ноты. Пяем сальфеджыа і са словамі. Звяртаецца ўвага на шырокія скачкі, секундавыя інтанацыі, распевы і асабліва – на фразы, вяршынькі. Выконваем індывідуальна і групамі. Вынік.
– Хто з вас прачытаў казку «Маленькі прынц»? Што ўразіла?
– Як зразумелі: «Зорко одно лишь сердце. Самого главного глазами не увидишь»?
– Ці заўсёды ёсць сэнс у танцы? (Так! Толькі кожны можа разумець крыху пазнаму).

**Слуханне: «Уцёкі» з балета «Альпійская балада».**
– Сёння мы з вамі адкрыем яшчэ адну старонку балетнай музыкі Я.Глебава. Балет «Альпійская балада» напісаны ў 1967 г. на аснове аповесці беларускага пісьменніка В.Быкава і складаецца з аднаго акта, які дзеліцца на тры часткі: «Уцёкі», «Перавал», «Каханне».

Пачынаецца балет невялікім уступам, у якім гучыць суровая тэма Радзімы. Галоўны герой Іван Цярэшка, радавы воін, бяжыць з палону. Музыка малюе бачную карціну: вось ён бяжыць, потым астанавіўся, каб перавесці дыханне. І пачынаецца яго маналог (думкі да самаго сябе). Музыка актыўная, мэтанакіраваная, валявая. Ён будзе змагацца з ворагам. Але шлях цяжкі і далёкі. Мы чуем злосныя інтанацыі марша фашыстаў. Спачатку гучаць ударныя інструменты, а потым злосна завы-

ваюць медныя. Гучанне то нарастае, то сціхае. Гэта атрад фашыстаў гоніцца за ім. Іван нечакана сустракае італьянскую дзяўчыну Джулію. Сілы пакідаюць яе. Яна рада сустрэчы з Іванам. Радасць перадаецца ў імклівай грацыёзнай тарантэле (італьянскі танец). Вельмі выразны дыялог паміж Іванам і Джуліяй. Не гледзячы на цяжкі шлях, Іван не пакідае дзяўчыну. Яны разам стараюцца ўцячы з акружэння.

Можна прачытаць урывак з аповесці В.Быкава, даць паслухаць музыку, задаць наступныя пытанні:

– Якія пачуцці выражае музыка? (Суровасць, мужнасць, радасць, злосць, грацыёзнасць).
– Што музыка адлюстроўвае? (Бег, нашэсце фашыстаў, грацыю).
– Які тып музыкі перадае рашучасць? (Маршавы). Весялосць? (Танцавальны). Роздум, размышленне? (Песенны).

**Выкананне песні «Прынц і Ружа».**

– Аб чым гэта песня?

Слухаем. Паўтараем мелодыю, тэкст. Складаем выканальніцкі план песні (1-шы куплет – больш празрыста, 2-гі – упэўнена, 3-ці – пачуццёва; можна выкарыстаць салістаў …). Падводзім вынік.

**Абагульненне тэмы ўрока.**

– Аргументуйце эпіграф урока.
– Што такое балет?
– На якіх музычных хвалях балетаў вы пабывалі?
– Назавіце знаёмыя балеты і іх аўтараў.
– Якая муза была апякункай танцаў?
– Які твор вам спадабаўся на ўроку?

**Выхад з класа** пад музыку «Адажыа».

# УРОК 15

## Тэма: *Ці можна ўбачыць музыку*

*Послушай: музыка вокруг;*
*Она во всем – в самой природе,*
*И для бесчисленных мелодий*
*Она сама рождает звук….*
М. Івенсэн

**Мэта, задачы ўрока:**

– паказаць агульны жыццёвы грунт розных відаў мастацтва: музыкі і жывапісу; – вучыць дзяцей рашаць праблему, што музыка – сапраўдная крыніца мастацкіх твораў;
– развіваць музычныя і творчыя здольнасці вучняў;
– выхоўваць эстэтычны густ як вялізную каштоўнасць.

**Тып урока:** урок-роздум.

**Музычны матэрыял:**
– «Люблю лугі квяцістыя». Словы А.Русака, музыка А.Чопчыца.
– «Бычок». Беларуская народная песня.
– М.Аладаў. «Сімфаньета До мажор» (1 частка, фрагмент).
– В.Войцік. Сімфанічная сюіта «Забавы» (1, 2 ч.).

**Абсталяванне ўрока:**
– таблічкі з тэмай урока, эпіграфам;
– партрэты кампазітараў: М.Аладава, В.Войціка;
– фоназапіс твораў: «Сімфаньета До мажор», «Забавы» (1, 2 ч.);
– нотныя табліцы песень: «Бычок», «Люблю лугі квяцістыя»;
– рэпрадукцыі карцін: М.Беляніцкі «Пейзаж са сланечнікам», П.Маслянікаў «Зацвіло жыта», В.Кубараў «Вясна», В.Пасюкевіч «Родныя ўзгоркі», В.Бялыніцкі-Біруля «Блакітнай вясной» і інш. (па выбару настаўніка), ці слайд-фільм з рэпрадукцыямі карцін, фатаграфій, малюнкаў.

## *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**

Уваход у клас пад музыку 1-й часткі «Сімфаньеты До мажор» (фрагмент). Настаўнік напамінае першую тэму сімфаньеты.

– Які настрой стварае музыка? (Светлы, жыццесцвярджальны).

Настаўнік называе тэму ўрока і эпіграф.

**Слуханне «Сімфаньеты До мажор».**

– Сёння вы ўвайшлі ў клас пад музыку беларускага кампазітара Мікалая Аладава (паказ партрэта) «Сімфаньету До мажор». (Сімфаньета – гэта маленькая сімфонія).

– Хто скажа, з якіх музычных інструментаў складаецца сімфанічны аркестр? (скрыпічная група, духавая група, ударная, фартэпіяна ці арфа (-ы)). У сімфанічным аркестры мы чуем сугучча розных інструментаў, гэта значыць сугучча розных тэмбраў (фарбаў), якія ствараюць вобраз (-ы).

Паглядзіце на гэтыя інструменты (паказваецца табліца «Сімфанічны аркестр»). Давайце паслухаем фрагмент «Сімфаньеты». Якія тут мелодыі? Як яны суадносяцца паміж сабой? Якія музычныя інструменты вы пачулі? (Настаўнік слухае адказы). У кожнага чалавека ёсць не толькі ўнутраны слых, але і ўнутраны зрок. Вы можаце ўявіць сабе маму, калі чытаеце яе запіску ці пісьмо і г.д.

Паслухайце яшчэ раз 1-ю частку. Пастарайцеся «ўбачыць» музыку. Які жыццёвы змест тут закладзены? Аб чым нам раскажа музыка? (Пейзаж. Карціна раніцы.). Гэта карціна беларускай прыроды. Тут кампазітар па-майстэрску карыстаецца беларускай народнай песняй «Ой, зелена, зелена». Яе інтанацыі, нібы крышталікі, зіхацяць на працягу ўсяго твора. Сімфаньету адзначаюць як узвышаную і глыбока лірычную. Паглядзіце на гэтыя малюнкі, рэпрадукцыі, фотаздымкі. Што бліжэй да музыкі? (…).

**Развучванне песні «Люблю лугі квяцістыя».**

– Паслухайце песню Гродзенскага самадзейнага кампазітара Аляксандра Чопчыца на верш вядомага беларускага паэта Адама Русака. Якое ўражанне яна стварае? Які характар, змест? Слухаем …

**Moderato**

1. Яшчэ ў лугах туманяцца нізіны за ракой,
   Іду ў поле раніцай сцяжынкай палявой.
   Убачу хустку белую ў калоссях ля ракі,
   І шчокі загарэлыя, і вочы-васількі.

Прыпеў:
Люблю лугі квяцістыя,
За полем шумны гай,
Палеткі каласістыя, –
Цябе, мой родны край.

2. Усмешкаю ласкаваю яна ўсміхнецца мне
   І песняю працяжнаю душу мне скалыхне.
   А сэрца, сэрца чулае падказвае з грудзей,
   Што мне не жыць без песні той,
   Не жыць без тых вачэй.

Прыпеў.

– Як вы лічыце, аб якіх кветках часцей за ўсё пяецца ў песнях? (Рамонках, валошках (васільках), ландышах …). Які вобраз дапамагаюць стварыць кветкі? (Глыбокі, лірычны, задушэўны). Якая тут мелодыя? (Пяшчотная, працяжная, падобная да беларускіх народных песень.)

Настаўнік звяртае ўвагу на нотны запіс: скачкі на кварту, квінту, распеўныя склады. Паказвае голасам і на музычным інструменце. Дабіваецца дакладнага выканання ў шасцідольным пульсіруючым рытме (з дапамогай акампанементу на інструменце ці нягучнага адплясквання). Прыпеў уздымаецца ўверх («да сонейка»). Паказвае. Склады сталі больш працяжнымі (у адрозненні ад дэкламацыйнага характару запева). У цэлым мелодыя песні гучыць нібы своеасаблівая баркарола на прасторах лугоў і палёў. Яна мае душу. Выконваем 1 куплет. Вынік.

**Развучванне песні «Бычок»[1] .**

– Паслухайце беларускую народную песню «Бычок», адкажыце, да якога віду вы яе аднясеце? Чаму?

1. Ой, да пра-дай, ба - буш-ка быч - ка, Ой, да пра-дай, ба - буш-
7
ка быч - ка. (Эх). Вот быч-ка, вот быч-ка, вот быч - ка, быч - ка, быч-ка.
13
– Ну я - ко - га? – Па-ла-во - га. – Ён у мя - не па-ла-вы,
19
ён у мя - не да-ра-гі: я - го не пра - дам.

2. – Ой, да пра-дай, ба-буш-ка, быч-ка, (2)
Вот быч-ка, вот быч-ка, вот быч-ка, быч-ка, быч-ка.
– Ну якога? – Рабога.
– Ён у мяне рабы, рабы, ён мне робіць вілы, граблі;
Ён у мяне палавы, ён у мяне дарагі:
Яго не прадам!

3. – Ой, да прадай, бабушка, бычка, (2)
Вот бычка, вот бычка, вот бычка, бычка, бычка.
– Ну якога? – Шэрага.
– Ён у мяне шэры, шэры, – зачыняе вокны, дзверы;

[1] Палавы бычок – бычок жаўтаватага колеру са светлым хвастом і грывай (у рускай мове – палевый).

Ён у мяне рабы, рабы, ён мне робіць вілы, граблі;
Ён у мяне палавы, ён у мяне дарагі:
Яго не прадам!

4. – Ой, да прадай, бабушка, бычка, (2)
Вот бычка, вот бычка, вот бычка, бычка, бычка.
– Ну якога? – Лысага.
– Ён у мяне лысы, лысы, ён памые ложкі, місы;
Ён у мяне шэры, шэры, – зачыняе вокны, дзверы;
Ён у мяне рабы, рабы, ён мне робіць вілы, граблі;
Ён у мяне палавы, ён у мяне дарагі:
Яго не прадам!

5. . – Ой, да прадай, бабушка, бычка, (2)
Вот бычка, вот бычка, вот бычка, бычка, бычка.
– А якога? – Бурага.
– Ён у мяне буры, буры, заганяе свінні, куры;
Ён у мяне рабы, рабы, ён мне робіць вілы, граблі;
Ён у мяне шэры, шэры, – зачыняе вокны, дзверы;
Ён у мяне лысы, лысы, ён памые ложкі, місы;
Ён у мяне палавы, ён у мяне дарагі:
Яго не прадам!

Гэта карагодная, гульнёвая песня-жарт, дзе у крузе разыгрываецца змест песні. Патрэбны салісты, хор. Першую фразу (4 такты) – выконвае першы саліст. Амаль такую ж мелодыю паўтарае хор. Гэты сказ гучыць у даволі павольным темпе. Прыпеў: «Вот бычка…» гучыць задорна, танцавальна (з прытопваннем. Можна на мелодыю 2-га голасу). Другая салістка пяе няспешна, распеўна (бабуля) – 2 такты («Ну якога?»). Наступныя 2 такты (хор) – на адной ноце. Заключны сказ – хор і салістка ці толькі салістка. Мелодыя ўвогуле мае варыяцыйны характар. Можа змяняцца. Усё залежыць ад зместу куплета. Галоўнае, каб дзеці адчулі гарэзлівы характар, вялікую моц духу народа. Вынік спяванню.

**Слуханне 1, 2 частак з Сімфанічнай сюіты «Забавы».**

– Сёння мы з вамі паслухаем дзве часткі з сімфанічнай сюіты Віктара Войціка – беларускага кампазітара – «Забавы». Сюіта – паходзіць ад французскага слова – паслядоўнасць. Твор, які складаецца з самастойных кантрастных п’ес, аб’яднаных агульнай мастацкай ідэяй. ( Слухаем дзве часткі).

– Якія вы пачулі знаёмыя мелодыі? ( «Юрачка», «Бычок»). Як яны гучаць?

– Што тут музыка выражае і адлюстроўвае? Якія карціны вы ўявілі, убачылі, гэта значыць, які тут жыццёвы змест? (Свята. Гулянне. Радасць. Жарт. Музыка адлюстроўвае мычанне бычка…)

**Абагульненне тэмы ўрока.**

– Ці можам мы ўбачыць музыку? (Кожны чалавек мае ўнутраны зрок. Ён нібы бачыць (уяўляе) тое, што чуе).

– Аб чым расказвае музыка?

– Якая сувязь музыкі і жывапісу, музыкі і літаратуры? (Усе гэтыя мастацтвы нарадзіліся з жыцця і расказваюць аб жыцці).

**Хатняе заданне.**

– Намаляваць ці падабраць фотаздымкі, рэпрадукцыі карцін для музычных твораў сённяшняга ўрока.

**Выхад з класа** пад частку сюіты «Бычок».

# УРОК 16

## Тэма: *«Беларусь – мая песня»*

*Я хадзіў па зямлі тваёй, слухаў твой голас ….*
М.Браўн, пераклад А.Бялевіча.

**Мэта, задачы ўрока:**

– абагульніць тэму паўгоддзя: замацаваць веды навучэнцаў, вучыць знаходзіць глыбокі сэнс у музычных творах, прыйсці да высновы, што музыка – гэта жыццё;

– развіваць лагічнае мысленне;

– выхоўваць эстэтычны густ.

**Тып урока:** абагульняльны ўрок-віктарына.

**Музычны матэрыял і абсталяванне ўрока:** па выбару настаўніка.

### *Метадычная распрацоўка ўрока*

**Арганізацыйны момант.**

Уваход у клас пад музыку «Сімфаньеты До мажор» М.Аладава (1ч.).

– Сёння мы з вамі абагульнім тэму паўгоддзя пад дэвізам «Беларусь – мая песня». Як вы разумееце эпіграф «Я хадзіў па зямлі тваёй, слухаў твой голас?» (…). На ўроку мы абагульнім нашы веды ў выглядзе віктарыны.

Раздаюцца лісты, на якіх напісаны пытанні (розныя варыянты). Можна мець на ўвазе наступныя **тэарэтычныя пытанні:**

– Нагадай народныя песні, якія адлюстроўваюць быт беларускага народа, яго звычаі, традыцыі.

– Дакажы, што з песняю і работа ідзе спарней.

– Што значыць «апрацоўка» песні?

– Нагадай беларускія народныя танцы. Што ім характэрна?

– Назаві асаблівасці беларускіх народных песень.
– Што такое кант? Прыклады.
– Як ты разумееш выказванне «Песня – душа народа»?
– Назаві творы, якія (на тваю думку) выхоўваюць сэрца.
– Якія вядомыя народныя мелодыі выкарысталі кампазітары ў сваіх творах? (Назваць аўтараў, іх творы і выкарыстаныя мелодыі).
– Ці можна ўбачыць музыку? Праклад(ы).
– Дакажы, што музыка – гэта жыццё. Прыклады.
– Нагадай вядомых баларускіх кампазітараў.
– Якія ты ведаеш беларускія балеты? Прыклады.
– Якія ты ведаеш беларускія оперы? Прыклады.
– З якіх інструментаў складаецца сімфанічны аркестр?
– Якія музычныя інструменты могуць перадаць ласку, пяшчоту, а якія – рашучасць, пагрозу? Прыклады.
– У якіх музычных жанрах музыка цесна звязана з літаратурай? Прыклады.

І іншыя пытанні.

**Музычная віктарына:**

– Які жыццёвы змест закладзены ў гэтым творы? Нагадай яго (гучыць фрагмент «Сімфаньеты» М.Аладава).
– Ахарактарызуй музыку (гучыць фрагмент «Адажыа» з балета «Маленькі прынц» Я.Глебава).
– Аб чым (ці кім) расказвае гэта музыка? (Гучыць мелодыя без слоў «Белая ў возеры лебедзь» – хор русалак Р.Пукста з оперы «Машэка»).
– Праспявай песню (паказваецца мелодыя, якую пяюць са словамі па 2-3 вучня) і іншыя.

Мяркуецца, што ў кожным варыянце будзе па аднаму тэарэтычнаму пытанню і некалькі практычных.

**Выхад з класа** пад музыку В.Войціка «Забавы» (фрагмент).

## *Рэкамендаваная літаратура*

1. Беларускія канты / склад. Л. Касцюкавец. – Ленінград, 1992.
2. Беларуская музыка 16-17 ст. / склад. Л. Касцюкавец. – Ленінград, 1990.
3. Бракала, Н.І. Музыка: Падручнік для 7 класа агульнаадукацыйнай школы / Н.І. Бракала, А.С. Чопчыц, Г.Б. Кажанеўская. – Мінск: Беларусь, 2000.
4. Бусловић, Д. Мифологические сюжеты в произведениях искусства / Д. Буслович, О. Перманова, Е. Руммель. – Ленинград – Москва: Сов. художник, 1965.
5. Глущенко, Г.С. Белорусская советская музыкальная литература / Г.С. Глущенко, К.И. Степанцевич. – Минск: Вышэйшая школа, 1981.
6. Двужильная, И.Ф. Белорусская музыкальная литература: метод. пособие для преподавателей детских музыкальных школ и школ искусств / И.Ф. Двужильная, С.В. Ковшик. – Минск: БелИПК, 2000.
7. Краж, У.М. Беларускія народныя гульні ў школе / У.М. Краж, В.В. Трубчык. – Мінск, 1993.
8. Ліцьвінка, В. Святы і абрады беларусаў / В. Ліцьвінка. – Мінск: Беларусь, 1997.
9. Мдзівані, Т.Г. Кампазітары Беларусі / Т.Г. Мдзівані, Р.І. Сергіенка. – Мінск: Беларусь, 1997.
10. Попова, Т. Основы русской народной музыки / Т. Попова. – М.: Музыка, 1977.

## *Змест*

Вучэбнае выданне

**КАЖАНЕЎСКАЯ** Ганна Балеславаўна
**БРАКАЛА** Ніна Іванаўна

МУЗЫЧНАЯ КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ
НА ЎРОКАХ МУЗЫКІ Ў 4 КЛАСЕ

Дапаможнік

Адказны за выпуск: *М.У. Вахмяніна*
Камп'ютарная вёрстка: *Р.М. Баранчик*
Мастацкі рэдактар: *В.В. Канчуга*

Падпасаны да друка 26.05.2010. Фармат 60х84/16.
Папера афсетная. Рызографія. Гарнітура Гарамонд.
Ум. др. арк. 6,98. Ул.-выд. арк. 6,07. Тыраж 100. Заказ

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны
універсітэт імя Янкі Купалы».

ЛВ № 02330/0549484 ад 14.05.2009.
ЛП № 02330/0494172 ад 03.04.2009.

Зав. Тэлеграфны, 15а, 230023, Гродна.

ISBN 978-985-515-294-2

